BULK RATE
US POSTAGE
PAID
ADA. MI
Permit No 47



# БЕЛАРУСКІ ДАЙДЖЭСТ

BELARUSIAN DIGEST

ГАЗЭТА БЕЛАРУСКАГА ЗАМЕЖЖА ў АМЭРЫЦЫ

1086 Forest Hills, SE.
Grand Rapids, MI 49546-3616 USA.

№ 10(23) Лістапад 1995 November Год выд. 3




The 75 th Anniversary of the Sluck (Belarus) Armed Uprising

Віктар НОВІК

## Жальба

**(да вынікаў рэферэндуму)**

**Табе, мой браце, ветлівы і чулы,
Наўрад ці ўжо узняцца з небыцця...
Каб Слова беларускае пачулі,
не хопіць і трохвечнага жыцця.
Няўжо дапёк сабак бязродных лямант,
Што ты дазволіў замяніць, крывіч,
Зялёна-бруднай бальшавіцкай плямай
Струмень зіхотка-палкае крыві?
Мой сцяг святы. Яму я верны буду.
...Яго трымаў Астрожскі леваруч,
А праваю пад Воршаю — прыблудаў
Крушыў — і выратоўваў Беларусь!
Касцюшкі геній зззяе над Айчынай,
Славуты па-за роднаю зямлёй.
Хацеў ён волю даць табе, хлапчына,
Ды быў няроўны з акупантам бой...
З крыжом і зоркай лютавалі каты,
Людзей у печы клалі як трыснёг...
Забыліся?! Хатынь і Курапаты!?
Яшчэ — Чарнобыль і хімічны смог!?
Наш радавод... Цяпер як звацца будзьма?
Табе ж маліўся, Божа, ўспамяні,
На «Катэхізісе» ў Нясвіжы Будны,
На роднай мове добры славянін!
Дзе слова наша? Дзе яно прапала?
Не знойдзеш, хоць паўсвета абыдзі...
Не здолелі ні Колас, ні Купала
Ірты расшыць ды гонар абудзіць.
І ўсё ж надзеяй мерай, браце, крок ты!
Збудуем дом — складзем за брусам брус.
Гэй, цесляры, ўздымайце вышай кроквы —
Тут будзе жыць святая Беларусь!**

Гэтым пачынаем публікацыю фота людзей, якія бескарысьлівай працай на ніве беларускага адраджэньня сталіся заслужанымі і ведамымі асобамі сярод беларускае дыяспары.



Доктар Мацьвей СМАРШЧОК — заслужаны і ведамы мэдык, філянтроп, культурны і грамадзкі дзеяч, а перадусім вялікі беларускі патрыёт і незалежнік.

Дарагі Доктар Мацьвей! Вітаем Вас на старонках нашае незалежнае газэты.



# Амерыканскія і нямецкія бізнесмены засведчылі, што належныя ўмовы для развіцця вытворчасці і бізнесу на Беларусі пакуль што не створаны

**Закончыліся Дні эканомікі нямецкай зямлі Паўночны Рэйн-Вестфалія ў Беларусі, завяршыўся візіт амерыканскіх бізнесменаў. Якія вынікі?**

Афіцыйная прапаганда паспяшалася даць на гэтае пытанне станоўчы адказ. Але ж ці адпавядае гэта сапраўднасці?

Сапраўды, упершыню да нас прыязджалі такія вялікія групы дзелавых людзей з дзвюх самых магутных і ўплывовых краін свету — **ЗША і Германіі.** Яны маглі і павінны былі **б стаць пачаткам** буйнамаштабнага супрацоўніцтва ў шэрагу галін. На жаль, гэтага **не адбылося.** Паездкі вядомых бізнесменаў набылі чыста азнаямленчы характар, хоць многія з іх прывезлі салідныя прапановы. Але, убачыўшы, што тут адбываецца, павезлі іх назад. Дзелавыя госці не ўбачылі ў нас ні рэальных рэформ, ні больш-менш прыдатных умоў для разгортвання вытворчасці, ні павагі да законаў і правоў чалавека...

Кіраўнік дэлегацыі з Нямеччыны статс-сакратар міністэрства эканомікі названай вышэй зямлі Хартмут Крэбс заявіў, што супрацоўніцтва пачнецца тады, калі на Беларусі будуць створаны ўмовы для дзейнасці інвестараў. Пакуль жа будуць праводзіцца ў асноўным адукацыйныя мерапрыемствы, такія, як павышэнне кваліфікацыі кіруючых кадраў прадпрыемстваў і г.д.

Амерыканскія бізнесмены ў адзін голас гаварылі пра шматлікія перашкоды для вытворцаў, якія існуюць на Беларусі. Яны спасылаліся на высокія падаткі, марудны ход прыватызацыі, зямельнай рэформы, наогул рыначных пераўтварэнняў, парушэнне правоў чалавека. Пасол ЗША Кенет Яловіц адзначыў, што прыток інвестыцый можна чакаць толькі тады, калі Беларусь стане на шлях рыначных рэформаў. Урад ЗША хацеў бы таксама, каб наша краіна інтэгравалася не толькі на Усход, але і на Захад.

Вось ужо чатыры гады запар улады (былыя і цяперашнія) бясконца пераконваюць нас, што яны ажыццяўляюць рыначныя рэформы, пераадольваюць крызіс. І кожны раз, калі да нас прыязджаюць вядомыя спецыялісты і бізнесмены з Захаду, мы чуем ад апошніх таксама адно і тое ж — яны тут, на Беларусі, пакуль што не бачаць рэформаў.

Нядаўна вялікі дэсант дзелавых людзей ЗША і Германіі зноў пацвердзіў усё тую ж ісціну — рэальныя, маштабныя рэформы ў Беларусі пакуль што не пачаты, належныя ўмовы для развіцця вытворчасці і бізнесу не створаны.

Калі ж у нас ад размоў пяройдуць да спраў?

**Андрэй РУСАКОВІЧ.**

**BELARUSIAN DIGEST**
Беларускі Дайджэст

1086 Forest Hills, SE.
Grand Rapids, MI. 49546-3616
U.S.A.

Phone / Fax: (616) 942 - 0108

Publisher & Editor — Nikolas Prusky
Выдавец і Рэдактар — Мікола Прускі

Belarusian Digest, (ISSN 1079-7696) is published monthly by Belarusian Digest, 1086 Forest Hills, SE. Grand Rapids, MI 49546-3616, U.S.A.
Артыкулы і допісы могуць выяўляць пагляды, з якімі Рэдакцыя не згаджаецца.

# ЁСЬЦЬ МОВА — ЁСЬЦЬ КРАІНА ! "ЛіМ"

***ВЫСТУПЛЕННЕ СТАРШЫНІ ВЯРХОЎНАГА САВЕТА РЭСПУБЛІКІ БЕЛАРУСЬ М. І. ГРЫБА НА IV З'ЕЗДЗЕ ТАВАРЫСТВА БЕЛАРУСКАЙ МОВЫ ІМЯ ФРАНЦІШКА СКАРЫНЫ***

Шаноўнае спадарства!

Паважаныя сябры беларускай мовы!

Скажу шчыра: мне вельмі прыемна быць сёння сярод вас! Быць сярод сумленных і праведных адраджэнцаў беларушчыны, сярод сапраўдных сьвяцілаў сучаснай беларускай нацыянальнай культуры. Такія падзеі, як ваш з'езд, такія сустрэчы пакідаюць след і памяць назаўсёды. І я ганаруся тым, што знаходжуся сёння разам з вамі!

Таварыству беларускай мовы імя Францішка Скарыны ўсяго некалькі гадоў. На вялікі жаль, мала, да крыўднага мала ў нас сёння такіх аб'яднанняў і суполак, як ваша, якія б сумленна і праведна, мужна і адкрыта спавядалі б сваё мэты і задачы ў імя беларускага нацыянальнага Адраджэння. Думаю, не перабольшу, калі скажу, што асноўная мэта вашага таварыства — па-сапраўднаму святая. А заключаецца яна, як запісана ў пасведчанні аб рэгістрацыі вашага аб'яднання, у "аднаўленні ў грамадстве стаўлення да роднай мовы як да нацыянальнай святыні, пашырэнні ўжытку ва ўсіх сферах жыцця Рэспублікі Беларусь, усебаковым развіцці і захаванні яе чысціні і самабытнасці, садзейнічанні забеспячэнню ёй статуса адзінай дзяржаўнай мовы".

Такога таварыства, як ваша, наколькі мне вядома, акрамя Украіны, няма больш ні ў адной краіне свету. І калі зыходзіць з логікі, здаровага сэнсу гэта — не натуральна. Сапраўды, дзе, у якой яшчэ дзяржаве ёсць патрэба ў абароне роднай мовы, дзяржаўнай мовы?! Цывілізаваны свет да такога проста не дадумаўся.

А вось нам, беларусам, абараняць, прапагандаваць, распаўсюджваць роднае слова не тое што трэба, а проста неабходна. Хаця ўсім павінна быць зразумела: ёсць мова — ёсць нацыя, ёсць краіна! Няма мовы — няма нацыі, няма краіны!

Такія мае асабістыя падыходы да гэтага вельмі важнага дзяржаўнага пытання. І сказаў я ўсё не таму, што супраць Таварыства беларускай мовы, а таму, што ўпэўнены: у нашай складанай сітуацыі гэта — адно з выйсцяў са становішча.

Я асабіста не сумняваюся ў тым, што на вашым з'ездзе атрымаецца шчырая, глыбокая і зацікаўленая размова. І пойдзе гэта размова шмат па якіх накірунках. Бо вымагае таго час, тая рэчаіснасць, у якой мы апынуліся і вымушаны жыць і дзейнічаць.

Не думаю, што перабольшу, калі скажу: сёння мы жывём у час трывогі.

Трывогі за суверэнітэт і незалежнасць Рэспублікі Беларусь.

Трывогі за наша нацыянальна-культурнае Адраджэнне.

Трывогі за ўсё беларускае!

На вялікі жаль, ёсць і іншыя трывогі. І наша з вамі задача, наш з вамі святы абавязак — супрацьстаяць ім, не дазволіць пэўным сілам вярнуць Беларусь туды, дзе яна была яшчэ нядаўна!

Мы павінны быць вытрыманымі і мужнымі ў сваіх дзеяннях, перакананымі, што робім добрую, патрэбную і справядлівую справу.

Разам з тым я добра ведаю: ідэалы незалежнасці рэспублікі, ідэалы адраджэння нацыі сёння дарагія большасці нашага народа. І для таго, каб пераканацца ў тым, не трэба праводзіць рэферэндумы, заказныя апытанні і анкеціраванні. Трэба проста пабываць сярод простых людзей, пацікавіцца: чым, як, на якія сродкі, у імя чаго жыве наш чалавек сёння?!

Я цвёрда перакананы ў тым, што матэрыяльная нястача, недахват сродкаў на прыстойнае чалавечае існаванне — а гэта мы маем зараз скрозь і ўсюды — не прымусяць наш народ здаць суверэнітэт, пайсці да кагосьці па міласціну.

Шаноўнае спадарства!

Наша родная мова, як і зусім у недалёкія часы, зноў выцясняецца са штодзённага ўжытку. Выцясняецца на беларускім радыё і тэлебачанні, у іншых сродках масавай інфармацыі. Яшчэ больш трывожна за тое, што спыняецца адраджэнне нашай нацыянальнай школы. Дзе гвалтам, а дзе — з дапамогай ашуканства — ідзе русіфікацыя не толькі школ, тэхнікумаў, ВНУ, а і ўстаноў і арганізацый. Сумна ўсё гэта і трывожна. І давайце сёння разам падумаем, як гэты працэс спыніць!

Я не хачу сённяшнім выступленнем даць падставы гаварыць пра мяне як пра прапаведніка русафобіі. Я зусім не супраць прыгожай рускай мовы, але кожная павінна займаць сваё месца ў нашай краіне.

Пагэтаму давайце працаваць!

Праца, якая чакае нас усіх наперадзе, запатрабуе вялікіх сіл, энергіі, сапраўднай мужнасці. Але іншага выйсця няма. Наш народ, яго Вялікасць Беларуса трэба ў прамым сэнсе слова ратаваць. І найперш — праз абарону роднай мовы!

Я выдатна разумею: шлях да таго, калі беларускае слова сагрэе душы і сэрцы нашых людзей, яшчэ далёкі. Але гэта ваш, і мой асабісты, наш агульны шлях. Пойдзем разам! Я — як чалавек і грамадзянін, як дэпутат Вярхоўнага Савета цяперашняга, дванаццатага і наступнага, трынаццатага скліканняў — гатовы ісці з вамі! Я веру ў сваю Айчыну!

Дзякуй за ўвагу!

# Хоча, але ня можа

"Свабода"

**Сваім пажарным ваяжам у Расею беларускі прэзідэнт у чарговы раз зьдзівіў ды нават пацешыў шаноўную публіку і замацаваў за сабой у сур'ёзных расейскіх колах рэпутацыю малапрадказальнага і несамавітага палітыка.**

Парушаючы дыпламатычны пратакол і свой папярэдні графік, Лукашэнка зьявіўся ў расейскай сталіцы нібы сьнег у ліпені. Пра ягоны ад'езд у Маскву ня ведалі нават у беларускім Міністэрстве замежных справаў, тым больш што за некалькі дзён да гэтага міністар Уладзімер Сянько заявіў на сустрэчы са сваім расейскім калегам Козыравым, што абодвум бакам трэба грунтоўна рыхтавацца да паўнацэннага міждзяржаўнага візіту. "Паўнацэннага" не атрымалася. Прэзідэнт праігнараваў падрыхтоўчую дзейнасьць свайго зьнешнепалітычнага ведамства, як, зрэшты, ігнаруе апошнім часам шматлікія іншыя распрацоўкі міністэрства замежных справаў на чале з яго міністрам.

Нягледзячы на ўсе запэўніваньні тыпу "нічога такога не было", якіх багата выдалі на гэтым тыдні і Замяталін, і сам Лукашэнка, відавочна, што наш прэзідэнт кінуўся ў Расею, кажучы проста, гандляваць Беларусяй. Яшчэ два тыдні таму Лукашэнка заявіў у інтэрвію тэлерадыёкампаніі "Мір", што даслаў кіраўніцтву Расеі ліст з прапановамі аб "паглыбленьні" беларуска-расейскіх адносінаў.

У пачатку гэтага тыдня з Масквы прыйшоў адказ, які Лукашэнка ўспрыняў як станоўчы. Натхнёны такім паваротам справы, Рыгоравіч паімчаў у Маскву, маючы ў папцы праект нейкай канфэдэратыўнай дамовы. Але ў Расеі яго чакала неспадзяваная асечка — Ельцын адмахнуўся ад надакучлівага "маладога палітыка", не выказваючы вялікага жаданьня траціць на ягоныя пражэкты свой адпачынак. Лукашэнку давялося сустракацца з расейскімі сілавымі міністрамі, разбураючы ўсялякія панясьці аб годнасьці кіраўніка дзяржавы.

Нарэшце прэзідэнт Расеі згадзіўся пагаварыць са сваім "малодшым братам". Пачуўшы Лукашэнкавы прапановы, Ельцын нібыта сказаў: "Без Украіны нельга. Едзь у Кіеў, дамаўляйся з Кучмам". Паслалі — паехаў.

У Кіеве, аднак, Лукашэнку не чакалі — у аэрапорце прэзідэнта дзяржавы сустракалі супрацоўнікі адміністрацыі Кучмы, што красамоўна сьведчыла пра адносіны ўкраінскіх уладаў да неўтаймоўнай інтэграцыйнай энэргіі кіраўніка Беларусі. Украінская карэспандэнтка "Астанкіна" досыць пазьдзекавалася з наваяўленага аб'яднальніка, а тэлебачаньне выдзеліла на гэты амаль што сатырычны сюжэт ажно тры хвіліны (што бывае вельмі рэдка).

Такім чынам, чарговы "кавалерыйскі наскок" Лукашэнкі на Маскву скончыўся правалам. Гэта, аднак, ні ў якім разе не азначае, што правалам скончацца і іншыя намаганьні "ўключыць Расею ў склад Беларусі". Вядома, восеньская актыўнасьць прэзідэнта тлумачыцца і чыста прагматычнымі прычынамі: наступленьнем ацяпляльнага сэзону і парламанцкіх выбараў. Безумоўна, Лукашэнку з унутрыпалітычнага пункту гледжаньня хацелася б ажыцьцявіць "інтэграцыю" шляхам рэфэрэндуму, у ідэале прызначыўшы яго на дзень парламанцкіх выбараў. Нашае грамадзтва зноў бы пераключылася з выбараў на рэфэрэндум, а Лукашэнка атрымаў бы чарговую перамогу.

Але ў Расеі нашага прэзідэнта пакуль што "абламалі". І тут варта прааналізаваць, чаму ж Расея пакуль не жадае аб'ядноўвацца з Беларусяй. Найбольш простаeasлінейны і лагічны адказ — эканоміка: капіталістычная Расея нібыта ніяздольная сёньня "пераварыць" дзесяцімільённую краіну з сацыялістычнай формай уласнасьці. Але логіка — дрэнны аргумант у выпадку з Расеяй, дзяржавай, якую ніколі "умом не понять". Масква флегматычна церпіць на сваёй тэрыторыі і не такія "мядзьведжыя куткі" — у некаторых рэгіёнах Расеі рэформамі і ня пахне. А дзеля ідэалагічных і геапалітычных выгод Расея заўжды была гатовая пайсьці на любыя эканамічныя страты.

# Вайна з паветраным шарам

Зноў свет са здзіўленнем загаварыў аб Беларусі. Выстралы па спартыўным паветраным шары, у выніку якіх загінулі двое грамадзян ЗША, засведчылі некампетэнтнасць тутэйшых чыноўнікаў, адсутнасць у іх элементарных цывілізаваных навыкаў.

Людзі свету здзіўлены: як можна страляць у спартыўны паветраны шар? Гэта не ўкладваецца ў логіку нармальнага чалавека. І сапраўды. Пралецелі ж тыя шары над Германіяй, Чэхіяй, Польшчай, краінамі Прыбалтыкі, і нідзе нікому не прыйшло ў галаву трубіць ваенную трывогу.

Уявім на хвіліну, што гэта сапраўды была правакацыя і ў той карзіне былі не людзі, а, скажам... атамная бомба. Здагадваецеся, да чаго магла б прывесці неабдуманая стральба па шары? Так, да некалькіх Чарнобыляў адначасова. Альбо там была б якая хімічная ці бактэрыялагічная зараза. Гэта ж на якія плошчы рассеялі б яе лётчыкі сваім выстралам.

Такі "незразумелы шар" варта было б пасадзіць, каб убачыць, што ў ім. Калі бомба — зняць пускавы механізм, хімічная зброя — адвезці куды трэба, "сонныя людзі" — дапамагчы ім... Гэта ж так ясна. Усім. Толькі не нашым чыноўнікам. І "пасадзіць" такі шар вельмі проста. Як кажуць спецыялісты, трэба было зрабіць толькі адзін выстрал, адну прабоіну і ён спусціўся б як парашут... Дык жа не. Баявы верталёт развярнуўся, нібы на полі бою, і пайшоў у атаку, выпусціўшы чаргу з 20 патронаў...

Што ж адбылося ў небе над Бярозай? Выпадковасць гэта ці нешта большае?

Успомнім, што папярэднічала атацы верталёта на паветраны шар. Спярша прэзідэнт Расіі Ельцын на прэс-канферэнцыі моцна абрушыўся на НАТО і ЗША ў сувязі з падзеямі ў Босніі. Потым істэрыю нагняталя расійская Дума, у якой чуліся галасы нават аб адкліканні паслоў з заходніх сталіц... Горача падключыўся да гэтай кампаніі і Лукашэнка. Пасля такой прапагандыстскай атакі і адбыліся выстралы з гранатамёта па амерыканскім пасольстве ў Маскве і па паветраным шары амерыканскіх спартсменаў у небе Беларусі. Усе гэтыя факты паказваюць, што яны далёка не выпадковыя, а лагічна ўпісаны ў адзіны ланцужок падзей.

Нездарма прадстаўнік дзярждэпартамента ЗША заявіў, што яго краіна мае ўскосныя доказы наконт таго, што здарылася далёка не трагічная памылка.

У іншай атмасферы лётчык верталёта наўрад ці паліў бы з кулямёта па шары. А на камандным пункце пацікавіліся б ва ўсіх суседзяў, ці не бачылі яны шароў. А то нібы са злосці выпусціў цэлую абойму з 20 патронаў.

Гэта вельмі страшна, калі людзі, пальцы якіх на спускавым кручку, дзейнічаюць як робаты, а ў адказных асоб няма "кручкатормаза" на языку.

Вінаватыя ёсць. Імі, на мой погляд, з'яўляюцца і тыя, хто падаграваў істэрыю, і тыя, хто аддаваў загад адкрыць агонь па безабаронным шары, і тыя, хто націскаў кручок.

І тыя, хто пнецца ў друку апраўдаць гэтыя дзеянні. Усе яны "націскаюць на спускавы кручок", каб выстраліць у наша будучае.

Нельга скідваць з рахунку і версію, што гэта можа быць добра спланаваная правакацыя з мэтай адвярнуць Еўропу і свет ад Беларусі і такім чынам пад ужо адрэпеціраваную песню "А нас на Западзе ніхто не чакае" падштурхнуць яе ў абдымкі расійскай імперыі.

**Андрэй РУСАКОВІЧ.**

Усё, Саша, не дагоніш!!!

(Мроя прэзыдэнта рэспублікі)
"Свабода"



Ёсьць яшчэ даволі рамантычны аргумант: нібыта расейскае кіраўніцтва баіцца Лукашэнкі як патэнцыйнага кандыдата на расейскі прастол. Аднак калі Рыгоравіч сам не пасьпее зразумець усю небясьпеку такой ідэі, яму растлумачаць простымі славянскімі словамі. Калі ж і гэта не падзейнічае, расейскім спэцслужбам, якія арганізоўвалі мецяжы і нават цэлыя войны (згадайце Прыднястроўе, Абхазію), будзе нескладана прыдумаць якую-небудзь аварыю самалёта.

Найбольш праўдападобнай, на маю думку, зьяўляецца вэрсія аб нежаданьні расейскага кіраўніцтва фарсіраваць інтэграцыйныя працэсы. "Беларуская карта" павінна зьявіцца ў самы адказны момант — падчас прэзідэнцкіх выбараў — і стаць самым казырным тузом. Пры гэтым Лукашэнку не пакінуць правой на "аўтарства" ў гэтым сцэнары — будзе зроблена ўсё, каб ідэя аб'яднаньня дзьвюх дзяржаваў атаясамлівалася ў сьвядомасьці расейскіх выбаршчыкаў з імёнамі расейскіх кіраўнікоў — Ельцына або Чарнамырдзіна.

Такім чынам, дзякуючы абставінам незалежнасьць Беларусі атрымала невялікую перадышку. Нам, аднак, варта пазбавіцца ілюзій, нібыта нейкі добры расейскі правіцель пакіне нас у спакоі. Пры сучасным стане расейскай самасьвядомасьці любы наступны прэзідэнт Расеі будзе карыстацца ў той ці іншай ступені вялікадзяржаўніцкай ідэалогіяй. З "дэмакратычнай Масквы" выратаваньня чакаць не даводзіцца, трэба спадзявацца толькі на сябе.

Віталь ЦЫГАНКОЎ

## Гаротны Наваградак

**Старажытны Наваградак справіў юбілей: споўнілася 950 гадоў ад першай летапіснай згадкі аб горадзе.**

З нагоды юбілею горад прыхарашыўся, тое-сёе падправілі, падфарбавалі. Аднак усё ж цяжка было схаваць ад гасьцей, якія зьехаліся сюды 24 верасьня, гаротны стан старажытных забудоваў, помнікаў архітэктуры, культурных каштоўнасьцяў. Ужо колькі гадоў стаіць у рыштаваньнях Дамініканскі касьцёл, і канца рэстаўрацыйных работаў ня бачна. Абвальваецца цэгла з руінаў былога замку — помніка абарончага дойлідства 13-16 стст. Апошнюю рэстаўрацыю тут праводзіліся яшчэ за польскім часам. А зараз мясцовыя ўлады былі вымушаныя павесіць шыльдачкі, якія папярэджваюць, што блізка падыходзіць да вежаў небясьпечна.

Праўда, цяпер на замчышчы працуе сумеснае беларуска-польскае прадпрыемства "Рэмаватум", яго мэта — умацаваць тое, што яшчэ захавалася. Супрацьаварыйныя работы толькі пачаліся, а выдзеленыя з рэспубліканскага бюджэту 50 млн. рублёў ужо патрачаныя. Між тым з пераліку помнікаў, якія атрымаюць грошы на рэстаўрацыю ў наступным годзе, Наваградзкі замак міністэрскія чыноўнікі выкрэсьлілі. Цяпер спадзяваньні — толькі на Польшчу, якая пабяцала фінансавую падтрымку.

С.С

## Мечыслаў Грыб: "Я гэтага не падтрымліваў і падтрымліваць ня буду"

*"Свабода"*

### Так заявіў старшыня Вярхоўнага Савету Беларусі ў інтэрвію з нагоды заявы Савету Фэдэрацыі Расеі аб рэфэрэндуме па аб'яднаньні Расеі і Беларусі

**— Спадар старшыня, як бы вы пракамэнтавалі заяву Савету Фэдэрацыі Расеі аб правядзеньні рэфэрэндума па паглыбленьні эканамічнай і палітычнай інтэграцыі Расеі і Беларусі?**

— Кожная краіна мае правы праводзіць рэфэрэндумы па пытаньнях, якія не пярэчаць яе заканадаўству і ў якіх зацікаўленыя людзі, але мы, калі праводзілі рэфэрэндум, ставілі пытаньне ня ў той плоскасьці, якую прапануе Савет Фэдэрацыі Расеі. Мы пыталіся: "Вы за пашырэньне эканамічнай інтэграцыі з Расеяй ці не". Нашыя людзі адказвалі "так", у тым ліку і я. Але зараз Савет Фэдэрацыі Расеі ставіць пытаньне шырэй: вы за эканамічную і палітычную інтэграцыю? Эканамічная інтэграцыя — гэта зразумела, але што такое палітычная? Дзе яе пачатак, дзе канец? Можна па рознаму разумець, у тым ліку і як аб'яднаньне двух дзяржаваў у адну. Але калі маецца на ўвазе такое шырокае тлумачэньне, то гэта супярэчыць нашай Канстытуцыі, якая сьцьвярджае, што Рэспубліка Беларусь — гэта унітарная, суверэнная, незалежная дзяржава. А ўсё што супярэчыць Канстытуцыі, мною адназначна адхіляецца. Я гэта не падтрымліваў і падтрымліваць ня буду.

Яшчэ адзін момант адзначу. Мне здаецца, што не зусім карэктна паступаюць нашыя суседзі, калі прапануюць выносіць на рэфэрэндум пытаньне, якое супярэчыць Канстытуцыі суседняе дзяржавы.

**— Вы не выключаеце, што гэта пачатак розыгрышу беларускай карты напярэдадні выбараў у Расеі?**

— Не выключаю. Сапраўды да гэтага прыцягваецца ўвага, у тым ліку і такім сродкам, каб зрабіць рэфэрэндум у дзень выбараў. Мы свой рэфэрэндум таксама зрабілі ў дзень выбараў і цяпер я прыходжу да высновы, што мы дапусьцілі памылку. Ад гэтага пацярпелі выбары, бо ўсю ўвагу аддалі рэфэрэндуму. Дарэчы, да такой жа высновы прыйшлі і аглядальнікі з міжпарламанцкіх групаў, у тым ліку і Рады Эўропы.

**— Як Вы ацэньваеце ролю прэзідэнта Беларусі ў гісторыі са зьяўленьнем заявы Савета Фэдэрацыі Расеі? Ці не здаецца Вам, што гэта ў нейкім сэнсе адказ на ягоную ініцыятыву, якая была выказана падчас апошняга візіту ў Маскву і Сочы?**

— Мне цяжка гэта ацэньваць, бо паездкі прэзідэнта ў Маскву, Сочы, Кіеў са мной не ўзгадняліся і я аб іх даведаўся, як і ўсе астатнія, з паведамленьняў у прэсе. Пасьля гэтых паездак я таксама ніякай дадатковай інфармацыі ня меў.

Запісаў
Алег ГРУЗЬДЗІЛОВІЧ

## ЧАСТУШКІ

**1.**
Чаму, мілы, не прыйшоў,
Ці штаны ты не знайшоў?
Хоць бы дзедавы надзеў,
Дзед на печы б пасядзеў.

**2.**
А мой міленькі худы,
Ён ад ветру гнецца.
Павяду яго на луг —
Можа, адпасецца.

**3.**
Вы цалуйце мяне, хлопцы,
Хоць разоў чатыраста:
У мяне такія губы,
Што не адтапырацца.

**4.**
Не хадзіце, дзеўкі, замуж,
Я ўжо замужам была.
Дык пяць тыдняў з палавінай
Свякроў есці не дала.

**5.**
А мне мама гаварыла,
Каб я хлопцаў не вадзіла.
Я на маміну біяду
Поўну хату навяду.

**6.**
Кавалер, кавалер,
Каб ты праваліўся.
Адзін вечар пасядзеў,
А ўсім пахваліўся.

**7.**
Мяне міленькі цалуе,
А я рвуся і крычу.
Толькі б ён не здагадаўся,
Што я гэтага хачу.

**8.**
Ой, не дзьмі, сяброўка, губы,
Ты і так губатая.
Што твой мілы мяне любіць,
Я не вінаватая.

**9.**
Ой жа даўся мне мой муж,
Каб на яго ліха:
Павярну і варушу,
А ён ляжыць ціха.

**10.**
Дзед падаўся па грыбы,
Баба — па брусніцы:
Дзед вярнуўся без штаноў,
Баба — без спадніцы.

**11.**
А сягоння серада,
Мяса я не ела.
Не цалуйце мяне, хлопцы,
Каб я не самлела.

**12.**
Я на печы сяджу,
Слёзы капаюць:
Ніхто замуж не бярэ,
Толькі сватаюць.

**13.**
А з'явілася і ў нас
Новая тэндэнцыя:
З'езд учора, з'езд сягоння,
Заўтра — канферэнцыя.

**14.**
Што за я, што за я,
Што за я — майстрыца!
Шыла міламу штаны,
Выйшла рукавіца.

## Добра, што не спалілі на плошчы перад усім народам

У адну з пятніц верасьня сустрэў свайго знаёмага, які паведаміў мне, што ў кніжным кіёску Гарадзенскага ўнівэрсітэта зусім бясплатна раздаюць "нацыяналістычную" літаратуру. Ва унівэрсітэце я сапраўды ўбачыў аб'яву ў фае: "Увага! Увага! Зусім задарма раздаецца беларуская літаратура ўсім жадаючым (асабліва філолагам). Хто хоча атрымаць, зьвяртайцеся ў кніжны кіёск унівэрсітэта". І калі я ўвайшоў у кіоск, то сапраўды там было шмат студэнтаў і беларускую літаратуру бралі цэлымі стопкамі.

Такія, напрыклад, цудоўныя кнігі, як: Я. Сямашка "Армія Краёва на Беларусі", М. Ткачоў "Паходня", З. Пазьняк "Сапраўднае аблічча", А. Грыцкевіч "Адраджэньне" (гістарычны альманах), Я. Запруднік "З гісторыяй на Вы", В. Быкаў "Выбраныя творы", а таксама шмат іншых выданьняў беларускіх пісьменьнікаў, якія выйшлі ў сьвет за некалькі апошніх гадоў існаваньня Незалежнай Беларусі. Я пацікавіўся ў прадаўца кіёска: "Чаму беларускую гістарычную літаратуру раздаюць, як нейкую непатрэбную рэч?" Адказ быў такі: "Усе гэтыя кнігі сьпісаныя, як непатрэбныя. Таму вырашылі раздаць іх бясплатна ўсім жадаючым".

Вось так, шаноўныя браткі-беларусы, нашыя ўлады абыходзяцца з беларускасьцю. А маглі і спаліць гэтыя кнігі на плошчы перад усім народам, як рабілася некалі даўно.

Лявон Ляўко

"Пагоня", кастрычнік 1995.

*БЕЛАРУСЫ Ў СВЕЦЕ*

# БЕЛАРУСЫ БЕЛАРУСІ ПАСВАРЫЛІСЯ. А БЕЛАРУСЫ СІБІРЫ ГУРТУЮЦЦА

### АДКУЛЬ ЯНЫ ТАМ УЗЯЛІСЯ?

Па апошніх звестках, на абшарах Сібіры жыве больш за мільён беларусаў. Адкуль яны там узяліся? Гісторыя перасялення беларусаў у Сібір налічвае не адно стагоддзе. Напрыклад, у час адной з самых жорсткіх і кровапралітных руска-польскіх войнаў 1654—1667 гадоў рускім царом Аляксеем Міхайлавічам ставілася задача прымусова выселіць з Беларусі не менш як 300 тысяч чалавек. У пачатку 20-х гадоў XIX стагоддзя ў выніку рэпрэсій супраць сяброў тайных студэнцкіх таварыстваў «філаматаў» і «філарэтаў» Віленскага універсітэта прыкладна 135 чалавек апынуліся ў далёкіх і халодных краях. Такі ж лёс напаткаў і тых беларусаў, што ўдзельнічалі ў паўстанні 1830-1831 гадоў.

Але адначасова з рэпрэсіямі рух людзей з Беларусі быў выкліканы і эканамічнымі фактарамі. Беларусы лічыліся ледзь не самымі жаданымі на будаўніцтве расійскіх чыгунак, сетка якіх расла даволі хуткімі тэмпамі. З'явіўся нават тэрмін — «адыходніцтва». У канцы XIX стагоддзя штогод прыкладна 300 тысяч чалавек сыходзілі з Беларусі на заробкі. Толькі з Мінскай, Віцебскай і Магілёўскай губерняў у далёкую і халодную Сібір за 1896—1910 гады перасяліліся 492 тысячы чалавек.

Ужо з першых гадоў савецкай улады ажыццяўлялася планамернае перасяленне беларускага сялянства ў аддаленыя раёны краіны. У 1927 годзе ў Сібір, напрыклад, выехала 27 тысяч чалавек з Беларусі. Не сакрэт, што ў суровыя і неабжытыя ўсходнія раёны краіны выбіраліся самыя здаровыя і працавітыя сяляне, чым моцна падрываўся генафонд беларускай вёскі.

А далей пачалася высылка «кулакоў», затым на чужыну рушылі ахвяры сталінскіх рэпрэсій — нацдэмы.

Шмат каго з беларусаў скранула з месца другая сусветная вайна. У выніку эвакуацыі ў савецкім тыле апынулася каля мільёна жыхароў Беларусі. У пасляваенны перыяд папаўненню ўсходняй беларускай дыяспары садзейнічала вучоба моладзі ў грамадзянскіх і ваенных навучальных установах Сібіры.

Нягледзячы на тое, што ў Сібіры асела такая вялікая колькасць беларусаў, да апошняга часу яны не давалі аб сабе знаць.

### ПЕРАМЕНЫ

Перамены ў паводзінах беларусаў, што воляю лёсу і абставінаў апынуліся ў Сібіры, пачаліся пасля I з'езда беларусаў свету. Неўзабаве пасля гэтага беларуская дыяспара пачала там арганізацыйна афармляцца. А сёлета ў пачатку чэрвеня ў Новасібірску адбылася сустрэча беларусаў Сібіры. Дарэчы, на гэтую арганізацыйную сустрэчу прыехалі беларусы і з Масквы, і з Санкт-Пецярбурга, і з Вільні, і з іншых беларускіх асяродкаў дыяспары.

### ХТО ЯНЫ — НОСЬБІТЫ БЕЛАРУСКАСЦІ Ў ХАЛОДНЫХ КРАЯХ?

Сёння ў Сібіры існуюць цалкам беларускія вёскі. Іх жыхары па-ранейшаму жывуць па-беларуску. Спяваюць беларускія песні, адзначаюць беларускія святы, гатуюць беларускія стравы...

Усё гэта пабачыла на свае вочы ў час сустрэчы беларусаў Сібіры старшыня Рады Згуртавання беларусаў свету «Бацькаўшчына» Ганна Сурмач. Дарэчы, там у яе адбылася і незабыўная сустрэча з жанчынай па прозвішчу Лузіна, чый далёкі прапрадзед быў удзельнікам паўстання Каліноўскага. Спадарыня Лузіна, якая жыве ў Новасібірску, ніколі не забывалася, што яна беларуска, і пасля таго, як на яе далёкай Бацькаўшчыне паўстала незалежная Беларусь, яна вельмі актыўна далучылася да беларускага руху ў Сібіры.

Яшчэ адзін вельмі актыўны ўдзельнік суполкі «Беларусы Сібіры» — вучоны з сусветным імем Андрэй Трафімук. Ён доўгія гады ўзначальваў Інстытут геалогіі Сібірскага аддзялення Расійскай акадэміі навук. Намеснік кіраўніка адміністрацыі Новасібірскай вобласці таксама беларус.

Нямала ў суполцы вядомых прадпрымальнікаў, бізнесменаў, кіраўнікоў прадпрыемстваў, мясцовай інтэлігенцыі. Усе яны ці іх продкі — паходжаннем з Беларусі, і таму ўсё, што адбываецца на Бацькаўшчыне, прымаюць блізка да сэрца.

### ПАЗІЦЫЯ НАШЫХ СУАЙЧЫННІКАЎ

Большасць беларусаў у Сібіры — за незалежную беларускую рэспубліку.

— Але ў той жа час, — кажа Ганна Сурмач, — яны падтрымліваюць працэсы эканамічнай інтэграцыі паміж Расіяй і Беларуссю. І хацелі б канкрэтна дзейнічаць у гэтым накірунку. Тым больш, што многія з нашых суайчыннікаў у гэтым рэгіёне ўзначальваюць прамысловыя прадпрыемствы, занятыя прыватным бізнесам.

Улічваючы сённяшнія спадзяванні Беларусі на расійскую нафту, беларусы Сібіры папярэджваюць, прынамсі, пра тое, што яны могуць аказацца дарэмнымі. Бо на нафтаздабыўных прадпрыемствах Сібіры складваецца крытычная сітуацыя, у выніку якой Расія з імпарцёра нафты можа ператварыцца ў экспарцёра. На жаль, на дасланы ў Адміністрацыю Прэзідэнта РБ А. Лукашэнкі ліст акадэміка А. Трафімука з тлумачэннем сітуацыі не адрэагавалі адпаведным чынам. Дарэмна?

### ПАДСУМОЎВАННЕ, АЛЬБО БЕЛА-ЧЫРВОНА-БЕЛЫ СЦЯГ НАД ОБ'Ю

Што б ні адбывалася цяпер у самой Беларусі, але працэс кансалідацыі беларускай нацыі ў свеце набірае сілу, лічыць Г. Сурмач. І гэта вельмі адчуваецца па дзеяннях беларусаў Сібіры. Яны стварылі суполку «Беларусы Сібіры» ў Новасібірску, ствараюць суполкі ў іншых рэгіёнах, каб мець магчымасць захоўваць і развіваць сваю культуру і мову, сваю нацыянальную адметнасць і самабытнасць. Дарэчы, на сустрэчы беларусаў Сібіры прагучала пажаданне нашых суайчыннікаў правесці ў розных гарадах гэтага края Дні культуры Беларусі, што, на іх думку, далучыла б да беларускіх спраў мноства людзей.

На жаль, рэалізаваць гэтыя пажаданні будзе няпроста. Хаця б ужо па той простай прычыне, што наша дзяржава не мае сёння зацікаўленасці ў такой рабоце і проста недаацэньвае патэнцыял, які мае Беларусь па-за сваімі межамі. А якраз сёння яго трэба было б выкарыстаць дзеля нашых агульных інтарэсаў, дзеля падтрымкі нашай дзяржавы.

...Самае моцнае ўражанне, якое атрымалі супрацоўнікі ЗБС «Бацькаўшчына» ў Сібіры, — ад грузавой баржы, што рухалася па Обі пад вялізным бела-чырвона-белым сцягам. Яны нават вачам сваім не паверылі. Аказалася, што яе гаспадар — вядомы прадпрымальнік, беларус, той самы чалавек, які ахвяраваў вялікія сродкі на аднаўленне Крыжа Ефрасінні Полацкай.

ЗВЯЗДА Таццяна АНТОНАВА.

# Беларускі нацыяналізм. Ці ёсць ён?

(Працяг з папярэдняга № газэты)

Мова стваралася народам на працягу многіх стагоддзяў. Яна ўвайшла ў яго плоць і кроў, у гены. Стваралася ня толькі людзьмі, але і самой зямлёю, прыродай. Услухайцеся ў пошум беларускіх лясоў, у галасы крыніц, у гамонку рачулак, у плёскат хваль азёраў і параўнайце з гучаннем нашай мовы. Усё паяднана! А цяпер успомніце мовы, скажам, каўказцаў і іхнюю прыроду. Нічога выпадковага на гэтым белым свеце няма.

Са стратаю роднай мовы мяняюцца сам характар, натура чалавека, адбываецца яго перараджэнне, яго адчужэнне ад сваёй зямлі, знікае пачуццё адказнасці за яе будучыню, за лёс нашчадкаў. Усё гэта — сумныя беларускія рэаліі. Так што нездарма трывожыцца рускі акадэмік Д.Ліхачоў, нездарма прымаюць рашучыя захады па абароне роднай мовы ў Францыі і многіх іншых краінах свету. А здавалася б, чаго ўжо ім непакоіцца? Моўная сітуацыя там не такая, як у Беларусі. Няма ніводнага француза, англічаніна, немца, іспанца, які б цураўся роднай мовы. І ўсё ж лепшыя розумы, улады дзяржаў аператыўна рэагуюць на любы, нават самы нязначны дыскамфорт у гэтай найважнейшай галіне духоўнага жыцця нацыі, таму што дбаюць пра яе будучыню.

Закранём яшчэ адну праблему. З самых першых дзён пасля абвяшчэння Беларусі суверэннай і незалежнай супраць нашай дзяржаўнасці пачалася зацятая вайна. Яе нахабна і цынічна вядзе "пятая калона", што складаецца з розных "сабораў", "рухаў", "саюзаў" і г.д. Стараюцца і многія адстаўнікі з усяго былого Савецкага Саюза, якія заўсёды выбіралі месцам жыхарства калісь каўбасную Беларусь, атрымалі тут без чаргі кватэры. Варожа ставяцца да нашай дзяржаўнасці людзі без роду і племя, што атабарыліся на гасціннай беларускай зямлі, для якіх няважна, дзе, якім чынам і за кошт каго і чаго наладжваць сыты дабрабыт, набіваць кішэні грашамі. Хапае агрэсіўных, ваяўнічых выпадаў і ад сваіх парламенцкіх і наменклатурных манкуртаў. Усім ім даспадобы былая або новая імперыя. І ў гэтым няма нічога дзіўнага, кожны з іх вае за ўласныя інтарэсы. Свядомых грамадзян Рэспублікі Беларусь абурае тое, што гэтыя антыканстытуцыйныя, падсудныя нападкі на Дзяржаву, на яе Сцяг, Герб, Мову адбываюцца пры поўным патуранні ўлад, не караюцца па закону. Дык што, можа, і такое справядлівае абурэнне залічым у нацыяналізм?

Ну, а што ж думаюць пра ўсё гэта "нацыяналісты"? Дзе іхні голас у абарону беларускай дзяржаўнасці? А тут усё проста — не падпускаюць іх да радыёмікрафонаў, да тэлекамераў. Зрэдку толькі з'явіцца нейкі матэрыял у прэсе, ды і то побач з ім для "раўнавагі" абавязкова паставяць енк прыхільніка ці то савецкай, ці то расійскай імперыі.

Вось так і жывём у краіне абсурдаў, дзе можна аплёўваць усё, нават самае святое. Цяжка ўявіць, каб такое дзікунства адбывалася ў нейкай іншай дзяржаве свету, не выключаючы і былыя саюзныя рэспублікі.

Факты сведчаць пра тое, што на Беларусі ніколі не было і няма цяпер нават на бытавым узроўні таго агрэсіўнага нацыяналізму, які заўсёды скіраваны супраць іншых народаў. Наадварот, пакуль што самыя значныя страты панеслі і нясуць самі беларусы. Але і ў такой цяжкай — на мяжы жыцця і смерці — сітуацыі нацыянальна свядомая частка грамадства не робіць нейкіх экстрэмісцкіх захадаў, мужна захоўвае вытрымку, талерантнасць, разумеючы, што адраджэнне Бацькаўшчыны можа адбыцца толькі на аснове сцвярджэння годнасці як беларусаў, так і прадстаўнікоў іншых нацыянальнасцей, якія жывуць у рэспубліцы. І гэта бачаць, з удзячнасцю падтрымліваюць сваіх братоў-беларусаў сумленныя людзі — рускія, палякі, украінцы, яўрэі, татары, літоўцы, латышы.

Трывожыць іншае. Апошнім часам актывізаваліся неакамуністычныя, шавіністычна-імперскія і прафашысцкія арганізацыі, натхніцелі і кіраўнікі якіх знаходзяцца ў Расіі. Адзін з яскравых сімптомаў гэтага — ганебны, незразумелы нармальнай логіцы інцыдэнт 3 ліпеня 1994 года ў Мінску, у дзень агульнанароднага свята вызвалення Беларусі ад фашысцкіх захопнікаў. Свой дзікі твар паказалі тыя, хто хоча ўзурпіраваць права на самае святое — права на Памяць пра загінуўшых нашых дзядоў, бацькоў, братоў, пра ўсіх, хто аддаў сваё жыццё за свабоду; тыя, хто хоча развязаць грамадзянскую вайну, хто ўвесь час падштурхоўвае людзей да праліцця крыві. Калі наша грамадства не жадае стаць самагубцам, яно павінна рашуча спыніць антыдзяржаўную, антынацыянальную, антычалавечую дзейнасць усіх правакатараў і авантурыстаў.

Адзіная ідэя, здольная аб'яднаць сёння наша расхрыстанае, нестабільнае грамадства, — гэта пабудова сваёй незалежнай, дэмакратычнай беларускай дзяржавы, духоўнае і эканамічнае адраджэнне. Яна, гэтая ідэя, супадае з элементарным спаконвечным жаданнем кожнага чалавека, кожнай сям'і мець уласны прытулак, дом. Банальна, але за такой простай формулаю стаіць шмат чаго. Свой дом — гэта прадумова стабільнасці і надзейнасці быцця чалавека. Свая дзяржава — гэта ўмацаванне патрыятызму, годнасці ўсяго народа, яго духоўных і матэрыяльных асноў, гэта разумнае, ашчаднае выкарыстанне прыродных рэсурсаў, гэта поўная рэалізацыя назапашанага інтэлектуальнага патэнцыялу, імкненне людзей працаваць лепш, каб высока трымаць сваю марку.

Дзяржаўная і нацыянальная свядомасць здаўна, яшчэ ад часоў Полацкага княства, стала часткаю духоўнай культуры беларускага народа. Але якім пакутлівым быў яго шлях да сённяшняй дзяржаўнасці! Тым больш дарагой і святой павінна яна быць для кожнага грамадзяніна Рэспублікі Беларусь.

Бясспрэчна, што ісці наперад, шукаць годнай долі і шчасця ў гэтым свеце можна, толькі ведаючы свае карані, маючы гістарычную памяць. Усім народам былой савецкай імперыі трэба глыбока асэнсаваць сваю гісторыю, дакладна вызначыць свой далейшы шлях у будучыню — да свабоды і прагрэсу, што стане падмуркам і залогам узаемаразумення, сяброўства. Думаецца, што культурную, духоўную прастору на абсягу былога СССР яны захаваюць. Яна з'яўляецца важнейшай умоваю добрасуседства і павагі паміж дзяржавамі, якія набылі суверэнітэт. Наладзяцца эканамічныя, навуковыя і іншыя стасункі, якія сёння жыццёва неабходныя ўсім краінам. Толькі не трэба зноў заганяць некага эканамічнаю ці ваеннаю пугаю ў агульны хлеў, вешаць біркі "старэйшага" або "малодшага" брата. Мы ўжо гэта праходзілі і ведаем, чым усё скончылася.

Наогул, усе посттаталітарныя дзяржавы Еўропы і свету на шляху да дэмакратыі, да цывілізаванага жыцця не абыходзіліся без росту дабратворнага нацыяналізму. Слушна сказаў пра сітуацыю на абсягу былога СССР грузінскі філосаф Гія Нодзія ў артыкуле "Нацыяналізм і дэмакратыя", змешчаным у амерыканскім часопісе "Jornal of Democracy": "Таталітарызм, які на працягу некалькіх дзесяцігоддзяў душыў усялякую нармальную дзейнасць цывільнага грамадства, пакінуў пасля сябе натоўпы людзей-робатаў, што адчайна спрабуюць знайсці для сябе нейкі агульны прынцып, па якім можна будаваць новае сумеснае жыццё. У гэтых умовах нацыяналізм становіцца асноўным — калі не адзіным — прынцыпам, які здольны звесці людзей у адно грамадства".

А вось што піша сёння амерыканскі палітолаг Фрэнсіс Фукуяма: "... Я не думаю, што было б памылковым, калі б Расія выпрацавала ў цэлым нацыяналістычную знешнюю палітыку, арыентаваную на інтарэсы перш за ўсё рускіх, а не на інтарэсы іншых этнічных груп, якія жывуць у Расіі і з'яўляюцца яе грамадзянамі. Калі Расія не будзе ўлічваць інтарэсы рускіх, то хто ж тады?" Гэтыя словы пацвярджаюцца падзеямі, якія адбываюцца ў расійскім грамадстве, ва ўнутранай і знешняй палітыцы суседняй дзяржавы.

А таму і нам трэба рэалістычна глядзець на перспектывы адраджэння Беларусі. Улічваючы нашу сітуацыю, яно проста немагчыма без уздыму нацыянальнай свядомасці, патрыятызму, без абароны сваіх інтарэсаў.

Многае залежыць зараз ад грамадзянскай і палітычнай культуры нашага народа і перш за ўсё тых асоб, якія надзелены ўладаю. У свой час беларускі абывацель задураны капэбэўскімі, а затым праўрадавымі сродкамі масавай інфармацыі, радаваўся нашай "стабільнасці", хіхікаў, чытаючы пастаянныя паведамленні і мэтанакіраваныя каментарыі пра павышэнне цэн у Літве, Латвіі і Эстоніі. Але там былі прыняты разумныя захады, каб увесці нацыянальную валюту, абараніць унутраны рынак, дамагчыся стабілізацыі эканомікі і г.д. Сёння ўжо наш абывацель не хіхікае, а горка плача, гледзячы на цэннікі ў беларускіх магазінах. А што ж яму рабіць, калі жыццёвы ўзровень у Беларусі стаў адным з самых нізкіх у параўнанні не толькі з блізкімі суседзямі, але і з усімі былымі саюзнымі рэспублікамі? Можа, цяпер нашы людзі нарэшце, зразумеюць, што нельга плесціся ў хвасце падзей, што трэба мець **свой** розум, што неабходна абараняць **свае** нацыянальныя інтарэсы? А калі зробяць такі вывад, то не паўтораць сваіх памылак.

У маі нам трэба выбраць прынцыпова новы парламент, які будзе арыентавацца на ўласную гісторыю, культуру, дзяржаўнасць. Кожны думаючы беларускі грамадзянін павінен усвядоміць, што дзяржава з'яўляецца найвялікшай каштоўнасцю, якую выпрацавала чалавецтва. Калі наш народ гэтага не зразумее, ён асуджаны на смерць.

Усе савецкія гады нас вучылі класавай нянавісці, барацьбе. Трэба пачынаць вучыцца будаваць нармальнае жыццё, вучыцца любіць. З нашае любові да роднай зямлі, да свайго народа, з грамадзянскага ўзаемаразумення, з самаахвярнае, апантанае працы кожнага чалавека абавязкова вырасце магутнае дрэва беларускай дзяржаўнасці, духоўнасці і матэрыяльнага дабрабыту, каб шумець прыгожаю кронаю над вякамі.

Наша нацыянальная ідэя мае вялікае адрозненне ад тых узнятых сцягоў, пад якімі сёння чыніцца гвалт, ліецца кроў. Гэта не ваяўнічы нацыяналізм, скіраваны супраць некага, а ратунак нацыі ад сканання, спроба этнічнага самазахавання. На працягу многіх дзесяцігоддзяў бальшавікі падмянялі сэнс паняцця "нацыяналізм", ператварылі яго ў нейкае пудзіла. А нацыяналізм — абсалютна натуральны працэс жыцця нацыі, яе імунітэт, без якога яна чэзне, памірае. Адным словам, у нашай беларускай рэальнасці — гэта патрыятызм, адданасць сваёй Айчыне.

На Зямлі ёсць адна Беларусь, другой няма. Толькі тут, у месцы, вызначаным для беларусаў вышэйшаю воляю, яны змогуць рэалізавацца як народ, як нацыя. Гэта элементарная ісціна, ды і яе, на вялікі жаль, трэба зноў і зноў даказваць не толькі суседзям, але і сваім людзям.



Сілы нашага народа на зыходзе. І нельга спадзявацца на тое, што прыйдзе нейкі лепшы час, калі можна будзе пабудаваць незалежную Беларусь. Гісторыя дала апошні шанц, які мы абавязаны скарыстаць. Інакш усіх нас чакае праклён нашчадкаў.

# Мяркуючы па апытанню, парламент будзе давыбраны ўжо ў бягучым годзе

Народная газета

Звыш дзвюх трацей (67.7 працэнта) найбольш кампетэнтных і вядомых спецыялістаў Беларусі ў галіне палітыкі, мас-медыя, навукі і культуры — усяго каля ста рэспандэнтаў — лічаць, што новы парламент рэспублікі ў бягучым годзе будзе ўсё ж давыбраны.

Такія вынікі апытання, праведзенага Незалежным інстытутам сацыяльна-эканамічных і палітычных даследаванняў пры садзейнічанні Беларускага фонду Сораса. Высветлілася таксама, што 32.9 працэнта апытаных прагназіруюць няпоспех выбараў.

Было зададзена рэспандэнтам і пытанне аб магчымым саставе Вярхоўнага Савета. На іх думку, поўнага правалу дэмакратаў не паўторыцца, яны могуць атрымаць 18 працэнтаў яшчэ не запоўненых дэпутацкіх крэслаў. Паўтарэнне поспеху апытаныя прарочаць камуністам і аграрыям — адпаведна 31 і 29 працэнтаў месцаў. Незалежныя кандыдаты атрымаюць 22 працэнты.

Цікавы таксама прагноз вынікаў выбараў у Дзяржаўную думу Расіі ў снежні 1995 года. Мяркуемыя месцы па колькасці атрыманых галасоў размеркаваны наступным чынам: першае — блок "Наш дом Расія" (Чарнамырдзін), другое — камуністы (Зюганаў), трэцяе — ЛДПР (Жырыноўскі), чацвёртае — блок Рыбкіна, пятае — дэмакраты (Гайдар, Яўлінскі), шостае — нацыянал-патрыёты (Руцкой, Раманаў).

Як вядома, апазіцыйныя і незалежныя газеты абмяркоўвалі пытанне аб шанцах Прэзідэнта Беларусі стаць у будучым годзе Прэзідэнтам Расіі. Згодна з сацыялагічным апытаннем, вераць у тое, што Аляксандр Лукашэнка наогул прыме ўдзел у такіх выбарах, толькі 11,1 працэнта рэспандэнтаў, не вераць — 88,9.

**Ларыса КЛЮЧНІКАВА,**
**Белінфарм.**

# «НАРОДНАЯ ВОЛЯ» НЕ ВЫЙШЛА. ЧАМУ?

**У сераду не выйшаў чарговы нумар «Народнай волі» — першага у рэспубліцы штодзённага незалежнага выдання, заснавальнікам і галоўным рэдактарам якога з'яўляецца Іосіф Сярэдзіч.**

Прычына гэтага, паводле слоў І. Сярэдзіча, — фактычная забарона выдання. І. Сярэдзіч апісаў журналістам падзеі 10 кастрычніка. Калі газета была ўжо фактычна падрыхтавана, у 17.00 у рэдакцыю пазванілі з Беларускага дома друку і заявілі, што газета друкавацца не будзе на той падставе, што «Народная воля» парушыла Закон аб друку, таму выдавецтва скасоўвае з ёй дагавор. Выснову аб гэтым парушэнні быццам бы зрабіла Міністэрства юстыцыі, а Міністэрства культуры і друку аператыўна скасавала ліцэнзію на выданне газеты. Аднак намеснік міністра юстыцыі сп. Андрэеў не змог канкрэтна патлумачыць, у чым выявілася парушэнне закона, а тым больш прадставіць адпаведнае заключэнне. А вось у Міністэрстве культуры і друку І. Сярэдзічу заявілі, што там ніхто і не думаў скасоўваць ліцэнзію на выданне «Народнай волі».

Усе спробы звязацца з вышэйшымі асобамі краіны, прадстаўнікамі Адміністрацыі Прэзідэнта з тым, каб разабрацца ў сітуацыі і выпусціць газету, нічога не далі. Калі хто і выслухваў скаргі Сярэдзіча, дык не мог нічым дапамагчы, а Уладзіміра Замяталіна Іосіф Сярэдзіч не змог застаць на месцы. Газета не выйшла.

На думку Іосіфа Сярэдзіча, ініцыятыва такога жорсткага рашэння без усякіх папярэджанняў зыходзіла менавіта ад начальніка Галоўнага ўпраўлення грамадска-палітычнай інфармацыі Адміністрацыі Прэзідэнта Уладзіміра Замяталіна, ад яго ў Беларускі дом друку і паступіла адпаведнае распараджэнне, на якое спасылаліся супрацоўнікі Дома друку. Размова Сярэдзіча з Замяталіным 11 кастрычніка не дала ніякага плёну і не прасвятліла сітуацыю.

— Замяталін падставіў Лукашэнку, — заявіў І. Сярэдзіч журналістам. — Мы разлічваем на разуменне з боку Прэзідэнта, яго акружэння, на разуменне грамадскасці. Мы будзем змагацца за «Народную волю».

Сам Уладзімір Замяталін патлумачыў «Звяздзе», што ніякага распараджэння яго ўпраўленне не давала, бо гэта не ўваходзіць у яго кампетэнцыю. «Дзяржава павінна абараняць сябе ад ілжывай інфармацыі», — зазначыў У. Замяталін пра «Народную волю» і падкрэсліў, што Мінюст устанавіў факт парушэння «Народнай воляй» Закона аб друку і што размова не ідзе аб закрыцці газеты, а толькі аб скасаванні з ёю дагавора на друкаванне ў Беларускім доме друку па ініцыятыве ўласніка. Уласнікам Дома друку, як вядома, з'яўляецца дзяржава ў асобе кіраўніцтва справамі Прэзідэнта.

Тым часам у журналісцкіх колах ідуць размовы пра пагрозу для існавання яшчэ некалькіх незалежных беларускіх газет. Ці значыць гэта, што пачынае рэалізоўвацца перасцярога ў адрас тых журналістаў, ліміт часу якіх «вычарпаны»?

**Валер КАЛІНОЎСКІ.**
"ЗВЯЗДА"

# Л. МАЛЬЦАЎ СТАЎ МІНІСТРАМ

**Указам Прэзідэнта Беларусі выконваючы абавязкі міністра абароны Рэспублікі Беларусь генерал-лейтэнант Леанід Мальцаў, былы начальнік Галоўнага штаба Узброеных Сіл рэспублікі, назначаны міністрам абароны.**

Леанід Мальцаў нарадзіўся ў 1949 годзе на Гродзеншчыне. Прайшоў падрыхтоўку да армейскага жыцця ў Мінскім сувораўскім ваенным вучылішчы. Потым з залатым медалём закончыў Кіеўскае вышэйшае агульнавайсковае вучылішча. З 1971 па 1976 гады паслядоўна камандаваў узводам, ротай, батальёнам у Групе савецкіх войскаў у Германіі. З залатым медалём закончыў ваенную акадэмію імя Фрунзе, служыў намеснікам камандзіра, камандзірам палка на Далёкім Усходзе. У час вучобы ў Акадэміі Генеральнага штаба СССР атрымліваў стыпендыю імя Маршала Савецкага Саюза Г. К. Жукава. Да назначэння на пасаду начальніка Галоўнага штаба Узброеных Сіл Рэспублікі Беларусь і выконваючага абавязкі міністра абароны Леанід Мальцаў камандаваў 28-м армейскім корпусам у Гродне.

**Леанід ТРАЦЭЎСКІ, БелТА.**

# "Дайнова" толькі пачынае",— перакананы прэзідэнт фірмы Адам ПАЛЮХОВІЧ

*"Рэспубліка"*



**— Адам, сёння "Дайнову", пэўна, нікому прадстаўляць няма патрэбы. Як і вас — як прэзідэнта. І ўсё ж, што такое "Дайнова" на вашу ўласную думку?**

— Калі ў двух словах, то гэта злучэнне аднадумцаў, якія жывуць падобна, але неаднолькава. Людзей, якія і працуюць, і адпачываюць разам, якія ведаюць, што дабрабыт фірмы — гэта і іх ўласны дабрабыт.

**— Тым не менш "Дайнова", па-першае, гэта Адам Палюховіч.**

— Не зусім так. Я прэзідэнт фірмы. Але я адзін далёка яшчэ не "Дайнова". Без кожнага, хто працуе у нас, цяжка ўявіць фірму. Калі па нейкай падставе я не буду ў "Дайнове", ёсць кіраўнікі, якія павядуць справу не горш. "Дайнова" -- гэта не фірма адной асобы.

**— Дарэчы, што адзначае сама назва? Думаю, не кожны наш чытач гэта ведае.**

— Мабыць, так. У свой час мне часта казалі, што "Дайнова" гучыць, канечне, прыгожа, але неяк не па-нашаму. Былі і больш катэгарычныя выказванні. Маўляў, мы -- гэта "наглые литовцы, которые приехали в Беларусь сорвать деньги".

На самой справе, дайнова -- гэта назва племені, якое жыло ў VIII стагоддзі на тэрыторыі Гродзенскай вобласці і якое асімілявалася потым у беларускую нацыю. Так што назва наша самая што ні на ёсць беларуская.

**— Недзе чытаў, што са сваімі першымі паплечнікамі вы разышліся.**

— Так, *гэта было.* Калі *толькі* выйшаў закон аб кааперацыі, шэсць сяброў -- высокаадукаваных спецыялістаў -- замахнуліся на ўласную справу. Кожны быў асобай, ведаў, што яму трэба ў жыцці. Мы ўшчыльную заняліся распрацоўкай праграмных сродкаў і тэхнічных прыстасаванняў для савецкіх і замежных ЭВМ. Аднак недзе праз паўгода разышліся. Пэўна, таму, што з адных лідэраў каманды не бывае. Тым не менш засталіся сябрамі.

Праз год пасля гэтага стварылася зусім новая фірма, з якой і пачалася "Дайнова".

**— Хоць і кажуць, што "лиха беда — начало", але і пасля пачатку ліха, мабыць, хапала. Вось вышэй вы казалі, што і "наглымі литовцами" вас абзывалі...**

— ...І фірмай мафіі, і фірмай урада... І яшчэ многае казалі.

**— І як змагаліся з гэтымі плёткамі?**

— Ніяк. Толькі справамі. Стабільнасць і надзейнасць фірмы даказана часам. Сёння ў "Дайновы", акрамя гандлю, тры паўнацэнныя вытворчасці. Самы доўгажывучы з вытворчых напрамкаў фірмы -- гэта камп'ютэрны бізнес. Сфера, якая пастаянна трансфармуецца і эвалюцыяніруе. Мы сфакусавалі ўвагу на якасці выпускаемых камп'ютэраў. Гэта, зразумела, патрабавала кардынальна новага падыходу да выбару пастаўшчыкоў камплектуючых для гэтай вытворчасці. У выніку, падпісаны афіцыйныя пагадненні з такімі сусветна вядомымі кампаніямі, як "Intel" і "Conner". А ліцэнзія "Intel inside" на нашы камп'ютэры -- лепшае пацверджанне дасягнутага ўзроўню якасці. Дарэчы, мы сталі першымі ўладарамі гэтай ліцэнзіі на Беларусі і ў краінах Балтыі.

Акрамя выпуску камп'ютэраў, наладзілі вытворчасць металаапрацоўваючых станкоў і ўжо ўдзельнічалі ў міжнароднай выставе ў Гановеры. Займаемся і паліграфіяй. Як бачыце, напрамкі работы самыя розныя. Аб'ядноўвае іх толькі высокая тэхналагічнасць і стабільнасць.

**— Дзіўна гэта чуць, бо адусюль ідуць скаргі, што займацца вытворчасцю ў *нашай* краіне нявыгадна.**

— Скардзіцца лягчэй усяго. Куды цяжэй рабіць справу.

**— І ўсё ж, пагадзіцеся, нашы законы вельмі далёкія ад ідэалу. І тыя прадпрымальнікі, што сёння рвуцца да ўлады, трэба думаць, шчыра жадаюць іх змяніць. А вы, наколькі я ведаю, нават не рабілі спробы сходзіць у нардэпы. Прынцыпова?**

— Перш чым зрабіць той ці іншы крок, я заўсёды пралічваю, дзе буду больш карысны. Я ж па спецыяльнасці інжынер-праграміст. Што тычыцца вашага пытання, то лічу, што ў нардэпы мне ісці нельга, бо я не магу аднолькава добра працаваць тут і там. На сваім месцы з Палюховіча карысці куды болей, бо любой дзяржаве, любому ўраду заўсёды патрэбны вытворца і гандляр. А не толькі палітыкі.

**— Калі так, то як вы наогул адносіцеся да палітыкі?**

— Я ёю цікаўлюся ў тым ракурсе, што яна ўплывае на эканоміку, фарміруе яе, а працаваць даводзіцца ў гэтым эканамічным асяродку.

Думаю, што сярод тых, хто імкнецца да ўлады, канечне, ёсць людзі, якія шчыра імкнуцца нешта зрабіць добрае, нешта змяніць у нашым жыцці. Але давайце прызнаем, што нямала і тых, хто імкнецца туды толькі дзеля імя, нейкага іміджу.

Мне гэта не цікава. Я ніколі не стаўлю мэты зрабіць сабе імя любым чынам.

**— Але вы яго ўжо зрабілі.**

— Я рабіў не імя, а справу, фірму, не падобную на ўсе іншыя. Калі гэта ў нечым атрымалася, я рады. Бо лічу, што мужчынскае шчасце -- ў вытворчасці, будоўлі, у тым, што ён добра робіць сваімі рукамі, сваёй галавой, сваім сэрцам. А наогул вышэйшае шчасце чалавека -- быць у ладзе з самім сабой. Калі ж я адчуваю, што я ўсяго дасягнуў, што мне няма чаго рабіць, да чаго імкнуцца, то, напэўна ж, трэба будзе спытаць сябе самога, навошта я наогул жыву.

**— Наколькі я разумею, вы хіліце да таго, што Палюховіч шчаслівы чалавек.**

— Я хачу быць шчаслівым, таму і буду ім. Я шчаслівы той справай, якую раблю, тым жыццём, якім жыву.

**— Тады я вам зайздрошчу!**

— Калі ласка!

Ведаеце, мяне ніколі не пакідала пачуццё, што мы толькі-толькі пачынаем. Што тое, што зроблена, толькі маленькая прыступка для большага. Калі вы спытаеце, якая ж у "Дайновы" канчатковая мэта, то я не ведаю, што і адказаць. Наша задача зрабіць фірму, якая самаарганізуецца, самарэгулюецца і ў рэшце рэшт скіравана на недасягальны вынік. Як сказаў нехта з вялікіх: імкніся да немагчымага і даможашся жадаемага.

**— Мне здаецца, што ў наш час у чалавека, у якога ўсё добра, павінны быць ворагі.**

— Цяжкае пытанне. І ўсё ж, думаю, ворагаў у мяне няма. Можа, і некаму я непрыемны, некаму замінаю... Але ж то не ворагі. Я заўсёды намагаюся не правацыраваць людзей на зло. Хаця, згадзіцеся, зрабіць гэта вельмі няпроста. Часам дастаткова толькі аднаго позірка, каб пакрыўдзіць чалавека, зняважыць яго. А мо ў мяне няма ворагаў таму, што шмат сяброў. І тых, з кім сябруем з дзяцінства, і тых, з кім жыццё звяло ў апошні час.

**— І хто з іх бліжэй?**

— Сябар ёсць сябар. Калі ён сапраўдны, то ні час, ні адлегласць, ні занятак не мае аніякага значэння.

**— Даводзілася чуць, што "Дайнова" — *гэта не толькі* каманда аднадумцаў, але і сяброў, якія не толькі працуюць разам, але і бавяць вольны час талакой...**

— Ва ўсялякім разе, мы да гэтага імкнемся. Разам ходзім у лазню /два разы на тыдні/, двойчы на тыдзень гуляем у футбол. І зусім не па прымусу. Па-першае, гэта ўжо традыцыя "Дайновы", а па другое -- здароў'е і ні з чым не параўнальная эмацыянальная разрадка.

**-- Цяпер зразумела, чаму сам прэзідэнт фірмы ў добрай спартыўнай форме.**

— Стараюся. Дзякуй Богу, дваццацічатырохкілаграмовую гіру кожнай рукой разоў дваццаць яшчэ выжму.

**— Дарэчы, пра Бога. Вы чалавек веруючы?**

— Так, веруючы. Але не адношу сябе да нейкай канкрэтнай канфесіі. Я хрысціянін. Таму, бываючы за мяжой, я з задавальненнем наведваю ўсе хрысціянскія храмы.

**— А калі вам дрэнна, то ідзяце ў храм, у кампанію?.. Ці такога не бывае?**

— Бывае і добрае, і дрэннае. Як і ў кожнага чалавека. Калі радасна -- стараюся захаваць гэты настрой як мага далей, калі дрэнна, пераконваю сябе, што гэта часова. Не заўсёды справы дазваляюць падладзіцца настрою. І гэта добра. А калі час усё ж дазваляе, то заўсёды ёсць блізкія людзі, да якіх можна прыйсці ў любым настроі. Дарэчы, я не люблю вялікіх кампаній, у якіх не відаць асоб, а толькі грамаду.

Спакой знаходжу і ў прыродзе, у музыцы -- люблю джаз, рок, аўтарскую песню. Часам і сам бяру ў рукі гітару. Праўда, такіх хвілін у апошні час не вельмі багата.

***— Недзе чытаў, што юнаком* Палюховіч марыў купіць добрую аўдыётэхніку, каб слухаць любімую музыку. Сёння такая мара не здаецца смешнай?**

— Чаму ж? Гэта мара любога юнака. І калі сёння я маю магчымасць слухаць любімую музыку на добрай апаратуры, то, можа быць, і тая дзіцячая мара ў нечым падштурхнула да пошуку сябе, сваёй справы.

**— Дарэчы, Адам, аднойчы знаёмая банкір сказала, што яна не разумее тых, хто сёння пакутуе ад беспрацоўя. Маўляў, калі б яна не была банкірам, то без працы ніколі не сядзела б: шыла, вязала, пякла булкі... Бо на нашым кволым рынку столькі пустых нішаў. Вы згодны з ёю?**

-- Я таксама ўпэўнены, што кожны чалавек можа мець сваю справу. Хаця разумею, што гэта цяжка, што ў кожнага з нас уласная сістэма каардынат, што не кожны ўмее рызыкаваць, і гэтак далей. Але калі мець моцнае жаданне, нейкую канкрэтную мэту -- то ўсё магчыма. Якія б камені ні кідалі, скажам, у агарод гандляроў, што запаланілі нашы рынкі, я асабіста лічу іх малайчынамі. Чалавек не апусціў рукі, не чакае, што нехта некалі прынясе на блюдзечку дабрабыт у яго дом, а сам думае, як гэтага дабіцца, шукае, лічыць, матаецца па Турцыі, Кітаі... Можа, з гэтага першапачатковага капіталу потым і вырасце сапраўдная справа.

Скажу адназначна, што калі нашай дзяржаве стануць непатрэбны камп'ютэры і металаапрацоўчыя станкі, мы будзем шыць чаравікі ці рабіць нешта іншае. Працы хапае.

У любой сітуацыі нельга складваць крылы, у будучыню заўсёды трэба глядзець з аптымізмам. Прычым актыўным. Мала марыць аб тысячы даляраў, трэба думаць і шукаць, як іх зарабіць.

**-- Думаю, для сябе вы ўжо зарабілі дастаткова грошай?**

-- На жыццё многа грошай не трэба. Тым больш што я чалавек, так бы мовіць, стандартных запытаў. Амаль усё заробленае ідзе ў справу. Асалоду даюць не грошы, а адчуванне таго, што ты робіш нешта прыгожае.

**— А грошы пахнуць?**

— Пахнуць. Бо, акрамя нажытых сумленна і законна, ёсць і незаконныя. Апошнія пахнуць, і вельмі.

**— Вас саміх часта ашуквалі?**

— На жаль, у наш час гэта бывае часта. Ашуквалі. І нават па-вялікаму. Але да няўдач адношуся спакойна. Гэта навука, за якую трэба плаціць.

**— Некалькі слоў, калі можна, пра асабістае жыццё?**

— Давайце пакінем маё асабістае мне асабіста.

**— Думаю, гэтым мы заінтрыгуем жаночую палову нашых чытачоў. Іх, бадай, гэта цікавіць больш усяго.**

— Давайце суцешым нашых жанчын тым, што яны ў нас, безумоўна, самыя прыгожыя ў свеце. Я не так даўно быў у Нью-Йорку. Так, амерыканкі могуць дазволіць сабе быць больш выхаванымі, больш багатымі, больш свабоднымі. У іх лепшая касметыка, яны лепей могуць апранацца. Аднак, нават пры ўсім гэтым, скажам так, сярэднестатыстычнай амерыканцы далёка да сярэднестатыстычнай беларускі. Я ўжо не кажу пра беларускую дабрыню, шчырасць і добразычлівасць, якія, безумоўна, робяць нашых жанчын непадражальнымі.

**— Адчуваецца, што я размаўляю са знаўцам.**

— Я люблю людзей наогул. А лепшыя з людзей -- гэта жанчыны. Канечне, з пункту гледжання мужчын.

**— Ці не таму ў "Дайнове" працуюць толькі прыгожыя жанчыны? Дарэчы, кажуць, трапіць да вас на работу можна толькі па рэкамендацыях тых, хто даўно працуе на фірме і мае аўтарытэт. Гэта так?**

— Так. Гэта асноўны прынцып, бо хто можа лепш паручыцца за свайго сваяка, суседа ці аднакурсніка? Але ёсць і выключэнні. Галоўнае, каб прэтэндэнт быў чалавекам разумным, прадказальным, які нават у экстрэмальнай сітуацыі мог весці сябе спакойна і шчыра. Цякучкі ў нас няма. Па асабістаму жаданню звольніліся толькі два чалавекі.

**— Традыцыйнае пытанне рубрыкі: ці любіце вы анекдоты?**

— Люблю, і шмат якія падабаюцца. Вось чуў нядаўна: "Ідзе мужык па гораду. Бачыць, стаіць чарга. "За чым стаіце?" -- пытае. У адказ -- цішыня. Што рабіць? Стаў і ён. Стаіць. Раптам гандляр аб'яўляе: "Лямурыкі скончыліся, засталіся піцурыкі". Усе стаяць. Падышла чарга нашага мужыка, ўзяў ён пакет, заплаціў грошы і пайшоў дадому. Прыйшоў, разгортвае пакупку, а там і сапраўды піцурыкі".

Усе смяюцца з гэтага анекдота, хоць не ўсе і разумеюць. Я таксама смяяўся да слёз. І наогул люблю пасмяяцца.

**— І, як кажуць, на пасашок: якое на сённяшні дзень самае значнае дасягненне "Дайновы"?**

— Думаю, яно наперадзе. Мы ж толькі пачынаем!

**— Што ж, тады добрага вам плёну, і дзякуй за гутарку!**

*З госцем размаўляў Уладзімір НІКАЛАЙЧУК, здымаў Віктар СТРАЛКОЎСКІ, "Р"*

Дарагія Суродзічы! Набліжаюцца *КАЛЯДНЫЯ І Навагодныя сьвяткаваньні.* Хочацца выдаць нашу газэту на 12 старонак, але нам патрэбная Ваша дапамога...
Ветліва просім нашых чытачоў, асабліва тых, хто яшчэ ніколі ні прыслаў нам свае ахвяры, зрабіць і для нас сьвяточны падарунак... *Дзякуем!*

# Усё мацней гучыць на нашай зямлі звон "Спыніць русіфікатараў!"

"Народная Воля"

## Чацвёрты зьезд Таварыства беларускай мовы рашуча выступіў у абарону нацыянальнай годнасьці

Якое суквецце імён сабралася на чацвёртым з'ездзе Таварыства беларускай мовы імя Францыска Скарыны, які адбыўся ў мінулую пятніцу. Слова бралі Старшыня Вярхоўнага Савета Мечыслаў Грыб, віцэ-прэзідэнт Акадэміі навук Радзім Гарэцкі, лідэр Народнага фронта Зянон Пазьняк, вядомыя грамадскія дзеячы, дэпутаты Вярхоўнага Савета Ніл Гілевіч, Станіслаў Шушкевіч, старшыня Беларускай сацыял-дэмакратычнай Грамады Мікалай Статкевіч...

У Мінск прыехала каля двухсот пасланцаў з усіх раёнаў і гарадоў Беларусі. Трыбуну ўпрыгожвала дарагая сэрцу кожнага сапраўднага беларуса "Пагоня", а побач — наша нацыянальная святыня бел-чырвона-белы сцяг. На ўсю сцэну плакат: "Спыніць русіфікацыю!"

З'езд адзначыў, што ў краіне пачаўся наступ антыдэмакратычных і антынародных сіл. Яны абапіраюцца на вельмі сумніцельны, з пункту гледжання канстытуцыйнасці, рэферэндум, бессаромна выкарыстоўваюць для вынішчэння беларускай мовы масіраваную апрацоўку грамадскай думкі праз паслужлівыя сродкі масавай інфармацыі.

Сваёй пастановай з'езд рашуча асудзіў дзеянні з боку шэрагу дзяржаўных органаў, устаноў, накіраваныя на вынішчэнне беларускай мовы. Вырашана звярнуцца да сусветнай грамадскасці, уплывовых міжнародных арганізацый, каб узняць голас планеты ў абарону беларускага народа ад русіфікатараў.

Старшынёй таварыства зноў абраны Ніл Гілевіч.

**Андрэй РУСАКОВІЧ.**

# РАНА, СПАДАРЫ, РАНА!

Я не веру, што нацыянальная ідэя непапулярная ў нас. У мяне ёсць сваё асобнае меркаванне аб тым, чаму Беларускі народны фронт не набыў шмат прыхільнікаў. Зараз я паспрабую растлумачыць сваю думку.

Мільёны людзей нашай краіны хранічна адчуваюць сябе неабароненымі. Дзеці могуць пабегчы да мамы-таты ці проста схавацца пад ложак, а што рабіць даросламу, чытай, выбаршчыку? Яму таксама трэба кудысьці прытуліцца! БНФ не дае прытулку ў сябе. Наадварот, яшчэ адштурхоўвае і пасылае біцца і змагацца. Заве ў пікеты, на мітынгі, у свабодныя прафсаюзы канфліктаваць з адміністрацыяй фабрык і калгасаў. А рана, спадары, рана! Трэба спачатку абагрэць, накарміць, паспачуваць, усцешыць, падлячыць, урэшце. Тады ўжо папрасі, толькі папрасі дапамагчы змагацца і канфліктаваць.

Зайшоў у пакой БНФ, а там кнігі ляжаць на продаж. Кнігі беларускіх выдавецтваў, добрыя кнігі. Зірнуў на цану і зноў — крыўдна! Цана ў 2—3 разы перавышае тую, якая пазначана ў дзяржаўнай кнігарні, што па-суседстве. Прапануюць купіць бел-чырвона-белыя сцягі, а з іх самы маленькі цягне аж на дваццаць тысяч. Ды трэба, каб гэтыя сцяжкі бясплатна раздавалі проста на вуліцах! І кнігі каб раздавалі бясплатна студэнтам, настаўнікам, вучням беларускамоўных класаў. Дапамагчы хоць чым таму небараку-настаўніку, які ходзіць на ўрокі ў замытай кашулі з нямодным гальштукам. Дай гэтым жабракам які падарунак да Дня беларускага пісьменства! Але спадары з БНФ яшчэ і цягнуць з яго, патрабуюць: "Давай, давай, выхоўвай дзяцей беларусамі!"

Адзін аднаму дапамагаюць баптысты, каталікі, камуністы. Толькі ў БНФ, калі што здарыцца ў цябе, выплывай сам. Звольнілі з працы, знялі з чаргі на кватэру, захварэў — будзеш сам-насам з праблемай. Для БНФ галоўнае паразважаць пра гістарычныя плыні. Пра князя Вітаўта табе раскажуць, пра Статут Вялікага княства, пра мовы мілагучнасць, але пуцёўку ў санаторый не аплацяць!

Адна дзяўчына-бібліятэкарка плаціць за ложак у "абшчазе" 150 тысяч. Няма магчымасці перабрацца ў танную "абшчагу", дзе, за ложак бяруць 20 тысяч. Калі б звярнулася ў БНФ, хіба ёй дапамогуць?

Бібліятэка не мела грошай на падпіску перыёдыкі, выканкам не даў, тады хто пайшоў шукаць тыя мільёны? Былая камуністка-дырэктарка пайшла па банках і фірмах. А дэмакраты сядзелі сіднем і ніхто з іх не пайшоў па кабінетах выканкама ўгаворваць чыноўнікаў даць грошы бібліятэцы.

Ды не толькі для прыхільнікаў адраджэнскага руху няма добрага слова і ўчынку. Для самых сяброў партыі БНФ няма рады. Калі ў адну суботу святкавалі юбілей Мірскага замка, берасцейская філія БНФ толькі а трынаццатай гадзіне пятніцы пачала шукаць аўтобус, каб наладзіць экскурсію ў мястэчка Мір. Канечне, не знайшлі, не паехалі...

Такія недарэчнасці навідавоку, людзі, чытай, выбаршчыкі бачаць гэта. Як ім галасаваць?

У гэтых маіх разважаннях ёсць слабы бок. Маўляў, дзе возьме БНФ грошы на кнігі і гальштукі настаўнікам? Я не гатовы на гэта адказаць, бо каб ведаў, узяў бы там і сабе трохі грошай. Але вось што цікава. БНФ не бярэцца дапамагаць і проста бясплатна. Не было наладжана элементарных літаратурных вечарын, проста лекцый па гісторыі і мастацтве. Згадзіцеся, тут сродкі трэба мінімальныя. Альбо не было арганізавана талакі па прыбіранні засмечанага наваколля горада...

Тэма самаахвярнасці ў нас вельмі непапулярная. Гэтым беларусы адрозніваюцца ад многіх народаў, ад чачэнцаў, напрыклад. Няхай бы БНФ будаваў кватэры, рамантаваў нешта, даваў працу беспрацоўным, наогул, рабіў відавочна карысную справу. Але працу даюць ці адбіраюць камуністы, як і ўсё іншае, а Фронту застаецца пісаць на сваіх улётках: "Мы заўсёды казалі праўду". Ды старая бабулька-калгасніца скажа больш праўды, чым уся рада БНФ разам! Праўду беспрацоўныя без вас ведаюць, а вы знайдзіце ім працу, накарміце галоднага, дайце пратэзы інваліду, вітаміны дзіцяці, пазычку да зарплаты іншым. Не трэба ад хворых, беспрытульных і пакрыўджаных патрабаваць яшчэ большай ахвярнасці.

Калісьці шмат хто пісаў лісты, скаргі, просьбы ў ЦК кампартыі. Часамі ім дапамагалі. Але ў раду БНФ пісаць і скардзіцца дарэмна.

**Уладзімір СУХАПАР, бібліёграф**

Вазьміце на заметку

# Хто патрэбен у Амерыцы?

***Беспрацоўе ў той ці іншай ступені існуе ў кожнай краіне. І ў заможных Злучаных Штатах таксама. Тым не менш мясцовыя газеты штодзённа друкуюць сотні аб'яў пад рубрыкай "Патрабуюцца..." Відавочна, гэта такая праца, якая ні па ўмовах, ні па аплаце не задавальняе тых, хто атрымлівае дапамогу па беспрацоўю. Аб'явы адрасаваны галоўным чынам эмігрантам, якія імкнуцца сюды з усяго свету. Хто ж патрэбен у ЗША?***

"Народная газета"

Ёсць жорсткая ўмова — нелегалы не патрэбны. Каб эміграванту атрымаць сталую ці часовую работу, неабходна мець так званую "зялёную карту" — афіцыйны дазвол на пражыванне. У большасці выпадкаў ставіцца і яшчэ адна ўмова — веданне англійскай мовы. Дзе — дасканала, дзе — для бытавых зносін. Пачытаем аб'явы аднаго дня, напрыклад 17 жніўня.

Больш за ўсіх амерыканцы шукаюць жанчын для вядзення дамашняй гаспадаркі, догляду за дзецьмі, старымі ці хворымі. Як правіла, работніцы прадастаўляецца асобны пакой з кандыцыянерам, тэлевізарам і ваннай. Аплата — 7—8 долараў за гадзіну.

Для начной работы ў супермаркетах штатаў Фларыда, Джорджыя, Вірджынія запрашаюць прыбіральшчыкаў (мужчын і жанчын). 2000 долараў у месяц.

Нямала вакантных месц на будоўлях. Асабліва для дапаможных рабочых (10 долараў у гадзіну). Патрабуюцца таксама маляры (12 долараў), электрыкі (14 долараў), століры (15 долараў), зваршчыкі (20 долараў). Будаўнічаму майстру будуць плаціць 35 долараў у гадзіну.

Шмат патрабуецца вадзіцеляў. Іх заробак складзе ад 300 да 500 долараў за тыдзень.

Так што той, хто зможа ўладкавацца хоць на якую-небудзь работу, па нашых мерках зможа жыць прыстойна. Цэны на большасць тавараў сёння параўнальныя ўжо з нашымі. Трохпакаёвая кватэра з усімі выгодамі, напрыклад, у Джэрсі-Сіці абыдзецца ў 525 долараў у месяц. Сюды ўваходзіць плата за ацяпленне, газ, электрычнасць. Такім чынам, прыбіральшчыца магазіна заплаціць за камфартабельнае трохпакаёвае жыллё (не ў блоку, а ў двухсямейным доме) крыху больш за чвэрць месячнага заробку.

Так што ў Амерыцы жыць можа кожны, і няд рэнна. Іншая справа, што мы там не патрэбны.

**Іван СІНЯГОЎСКІ.**

# Бальшавізм? Башызм? Ці... Бульбашызм?

Неяк у газеце "Свабода" журналіст Віталь Цыганкоў зрабіў спробу вызначыць той лад, у якім мы цяпер жывём, і назваць яго адным ёмкім словам. Атрымалася вось як: "башызм". Адразу згадваецца туркменбашы й ягоная краіна.

Але параўноўваць у гэтым сэнсе "еўрапейскую" Беларусь і азіяцкі Туркменістан можна, мабыць, толькі часткова. Нават калі зыходзіць з таго, што ў іх і ў нас дэмакратыя, мякка кажучы, не дыхае на поўныя грудзі, то ў іх аўтарытарызм — нацыянальны, а ў нас — "западно-русский". У іх — недэмакратычнымі метадамі ствараецца краіна (ці, хутчэй, захоўваецца й нікому не аддаецца тая дзяржава, у якой можна вольна ўладарыць); у Беларусі — гэтымі самымі метадамі дзяржава разбураецца.

Больш чым за год прэзідэнцтва народу не было на дзяржаўным узроўні абвешчана й паказана прыкладу — куды ж усё-ткі ён павінен ісці й што рабіць. Тая частка зямлі, што завецца "Беларусь", стаіць гэты год на месцы, не вызначыўшы сабе дакладна стратэгічнага накірунку. Людзі знаходзяцца зараз па-за часам і прасторай, і, у адрозненне ад камуністычных часоў, калі ведалі, што будуюць камунізм, і нават часоў кебічаўскіх, калі дружна чакалі адсідкі ў "рублёвай зоне", цяпер (за выняткам свядомых беларусаў і камуністаў-імперыялістаў) так і не ведаюць, што маюць будаваць: асобную дзяржаву, канфедэрацыю, федэрацыю ці яшчэ нешта.

І нават рэферэндум у гэтым плане нічога не зрабіў, нічога не вызначыў. Адно паказаў, што існуе няўцямнае глупства, ды даў магчымасць сказаць некаторым: "Saneta simplicitas!"

Ці зможа прэзідэнт усталяваць дыктатуру, ці хоціць яму палітычнае моцы? Калі б размова ішла пра любую еўрапейскую краіну, то адказ быў бы адмоўны. Наш прэзідэнт проста не заняў бы там гэтай пасады, нават калі б вельмі хацеў. Але не ў нас, у савецкай Беларусі.

Помніце, як у СССРы "рэспублікі-сёстры" й "народы-браты" называлі часам адзін аднаго (не ў вочы, канешне): "лабусы", "бульбашы", "хахлы", "маскалі", "чуркі" і г.д. Цяпер ужо тыя "лабусы" й "хахлы" становяцца ці хочуць стаць сапраўднымі людзьмі. А пэўная частка нашага народа як была, так і застаецца "бульбашамі". Людзьмі без нацыянальнай і дзяржаўнай годнасці... І не чый іншы, а наш народ выбраў прэзідэнта. Таму й сённяшні наш лад вызначаецца адпаведным чынам. Бульбашызм. Экзатычна, але сваё.

**Аляксей ШЭЙН, студэнт**

*г. Мінск* "ЛіМ"

# ДАКОЛІ БУДЗЕ ПРАЦЯГВАЦЦА ГЕНАЦЫД БЕЛАРУСКАГА НАРОДУ!

Палякі апалячвалі, маскоўцы натуральна забаранялі ўсё беларускае. Нават немцам непатрэбнымі аказаліся "бяскрыўдныя беларусы". Бальшавікі зьнішчылі самасьвядомасьць нацыі, як здаецца назаўсёды. Чарнобыль падрывае і без таго зьнішчаны палітычным і нацыянальным генацыдам слабы генафонд. Сьмяротнасьць перавысіла нараджальнасьць. Як сьцьвярджаюць статыстыкі, апошні беларус зьнікне з твару зямлі ўжо ў 2105 годзе. Мне здаецца, што статыстыкі адсунулі задалёка канец беларусаў. Пры працягваньні кіраваньня краінай правячай клікай мы загінем значна раней. Для "товарища" прэзідэнта не існуе такая нацыя як беларусы. Ён кіруе пэўнай тэрыторыяй, а не краінай, населенай канкрэтным народам. Жаданьне размаўляць на роднай мове аб'яўляецца нацыяналізмам, а жаданьне жыць у незалежнай краіне — нейкім экстрымізмам.

Як ставіцца да ганебнай адносна ўсяго беларускага палітыкі грамадзянам, якія захавалі сумленьне і розум? Як ставіцца да неарусыфікацыі і да спробы далучэньня Беларусі да адраджэньня імпэрыі? Замест таго, каб рашаць свае праблемы, новы пастух заганяе нас у пекла палітычна нестабільнай і крымінальна квітнеючай Расеі.

Можа ўжо настаў час сказаць сваё НЕ неабальшавіцкаму рэжыму?! Даколі нас будуць лічыць бязтварым быдлам, за якое ведаюць, што яму есьці, як размаўляць і з кім жыць?!

Ганьба здрайцам беларускага народу! Жыве Беларусь!

Янка ТАТАРЫН
"Пагоня" № 136, 1995 г.

# ЭЛЬЖБЕТА СМУЛЭК БУДЗЕ ПРАФЕСАРАМ ВАРШАЎСКАГА УНІВЕРСІТЭТА

Пані Эльжбета Смулэк — вядомы ў Польшчы беларусіст, якая апошнія чатыры гады была Надзвычайным і Паўнамоцным Пасслом суседняй дзяржавы ў нашай рэспубліцы, вяртаецца на радзіму. Яна зноў будзе прафесарам Варшаўскага універсітэта і зноў прысвеціць сябе вывучэнню і прапагандзе беларускай культуры.

«Перастаўшы быць паслом Польшчы, я стану паслом беларускай праблематыкі ў Польшчы», — сказала пані Смулэк на прыёме, наладжаным польскім пасольствам з нагоды завяршэння яе дыпламатычнай місіі.

За вялікі ўклад у развіццё добрых узаемаадносінаў паміж Польшчай і Беларуссю Эльжбеце Смулэк цёпла падзякаваў прэм'ер Кабінета Міністраў Беларусі Міхаіл Чыгір.

На прыёме прысутнічалі Старшыня Вярхоўнага Савета Мечаслаў Грыб, міністры, шматлікія прадстаўнікі грамадскасці беларускай сталіцы.

**Белінфарм.**

# *ПАМЯЦІ СЯСТРЫ Якуба КОЛАСА*

Змарнела, абламалася апошняя галіна густога Міхалавага дрэва — не стала Марыі Міхайлаўны Бруй, апошняй, трынаццатай, з дзяцей Міхала і Ганны Міцкевічаў.

Жыла, векавала яна ў слыннай Мікалаеўшчыне. Прыязна і пачціва ставіліся да яе суседзі дый усе вяскоўцы. Прыязджалі на радзіму песняра людзі. Знаёміліся з тутэйшымі мясцінамі, з матэрыяламі філіяла музея. Некаторыя, больш цікаўныя, завітвалі і да Марыі Міхайлаўны. І яна, узрушаная гэткай павагай, ахвотна аддавалася ўспамінам. Прыгадвала даўно мінулыя гады, найперш жыццё-быццё сям'і Міцкевічаў. Успаміналa, як з маці ездзіла да Кастуся ў турму...

Ніколі не забывалася ёй першая сустрэча Коласа з Купалам. Гэта яна, дванаццацігадовая Маня, бегала з хутара Смольня ў Мікалаеўшчыну клікаць Кастуся. Маці не ведала, як лепей дагадзіць шаноўнаму госцю, якую пасцель паслаць хлопацам на вышках. Ды бянтэжнасць гаспадыні зняў сам Купала:

— Нічога, Каласок пад галаву — пераспім. Людзі мы прывычныя...

Рухавасць думкі, гарэзлівасць былі ўласцівыя сястры народнага паэта. Свой расказ яна нязменна перасыпала дасціпнымі жартамі. Часам для паўнаты гаворкі і песню завядзе. Найчасцей — беларускую народную... Не абыходзілася, зразумела, і без дэкламацыі братавых вершаў. Іх на паліцах памяці Марыі Міхайлаўны захоўвалася багата. Выдатна чытала самадзейная артыстка Купалу, Крылова, Пушкіна...

Здзівіла калісьці паэтава сястра сваёй



фенаменальнай памяццю С. Александровіча, А. Лойку і Ю. Пшыркова падчас запісу яе ўспамінаў пра Якуба Коласа. Сваё захапленне расказчыцай даследчыкі выказвалі ў друку.

...Марыя Міхайлаўна Бруй пражыла доўгі век — праз два месяцы ёй было б 95. І ўсё ж для блізкіх людзей смерць Коласавай сястры — страта.

Пухам Вам, Марыя Міхайлаўна, мікалаеўская зямля!

– "ЛіМ" **Іван КУРБЕКА**

---

## *Нам пішуць... Нас пытаюць...*

Паважаны Сп. Прускі!

Дзякую за газэту. Перасылаю Вам ахвяру на выдавецтва ў памяць майго брата Доктара Віктара Войтанкі.

З пашанай Г. В.-Г.

*Ахвяру атрымалі, дзякуем. Калі ласка прысылайце адрасы сваіх знаёмых і прыяцеляў, якія цікавяцца беларускімі справамі...*

Вельмі Паважаны Сп. Прускі!

Пры аказыіі, перасылаю Вам копіі з ангельскіх і ўкраінскіх газэт. Хачу думаць, што яны для Вас будуць цікавымі...

На маю думку, было-б вельмі пажадана, каб Вы давалі дату пад кожным перадрукованым артыкулам. Дату, натуральна, трэба даваць калі артыкул быў першапачаткова надрукаваны.

Пройдуць гады, дэкады, спадзяюся, што гісторыкам будзе патрэбна ведаць дакладную дату публікацыяў першапачатковых артыкулаў.

З пашанай да Вас, М. Ш.

*Падказаная думка слушная, але ў большасьці выпадкаў цяжкая для выкананьня. Часта-густа прысылаюць выразкі артыкулаў без ніякіх паметкаў. Пастараемся быць больш уважнымі...*

Вельмі шаноўны рэд. М. Прускі!

Разам з маім сябрам П. Пачопкам перасылаем на выдавецтва шчырую ахвяру...

Таксама высылаю Вам мой верш " О, Божа Праведны, Магутны...", які я напісаў хутка пасьля "майскіх выбараў" у Беларусі. Калі знойдзецца месца ў Вашай паважанай газэце, — прашу надрукуйце. Спрабую ў будучым напісаць да яго мэлёдыю...

Стараюся правесьці зборку грошай сярод нашых скупых беларусаў на Беларускі музэй у Гайнаўцы. Дзякуючы Вашай газэце мы зрабілі кантакт са Спадаром К. Майсеням...

Таксама хачу падзякаваць з Вамі справай чужаземных слоў у нашай прэсе. Для прыкладу падам некалькі слоў: "пан" — перад прозвішчам. Чаму не "спадар"? Панна Еўфрасіньня (Полацкая), чаму не спадарыня або спадарычня? Касьцёл, ксёндз, анёл або Мэсыяш... — чаму не царква, сьвятар, ангел або Мэсыя? Гэта так прыгожа гучыць...

Прабачце, што займаю Ваш дарагацэнны час... Прашу Бога, каб даў Вам сілы і добрага здароўя на многія годы...

## О, Божа Праведны, Магутны

О, Божа Праведны, Магутны,
Як быць мне добрай заўсягды?
Калі народ мой шматпакутны
Кіруюць ворагі заўжды. *)

Яны зняславілі народ наш,
І нашу мову родную,
І старадаўнюю Пагоню
І бел-чырвона-белы сьцяг.

Цябе прашу, глянь мілым вокам
Адзін хоць раз на любы Край,
Як церпіць ён ужо вякамі...
Праклён зьнімі, і волю дай!..

Цябе прашу, мой Мілы Божа!
Ад сэрца шчырага майго. —
Вярні нам Бацькаўшчыну нашу,
Каб славіць Бога Вечнага!

Міхась БУРНОС
27. 7. 1995, Аўстралія

*) У першай звароткі я паказваю зварот, якбы самой Маці-Беларусі да Усявышняга Бога.

*Дзякую Вам, дарагія людзі за ахвяру і жадаю Вам усяго найлепшага ў жыцьці. Памагчымасьці, калі ласка, дапамагайце нашай газэце...*

Вельмі Паважаны Спадар Прускі!

Шчыра дзякую за газэту "Беларускі Дайджэст". Пасылаю ахвяру і ветліва прашу надалей прысылаць мне газэту.

З хрысьціянскай любоўю, а. М. Т.

*Дзякуем і жадаем усяго найлепшага..*

Паважаны Сп. Прускі!

У залучэньні перасылаю ахвяру на Вашу газэту "Беларускі Дайджэст". Таксама прашу Вашай ветлівасьці перадаць $30.оо даляраў на "Аб'яднаньне Беларускіх Скаўтаў", якім кіруе Спадар М. Гракоў або сябру рэвізыйнай камісыі Сп. Кастусю Хадыку. За гэта буду шчыра ўдзячны, дзякую.

З пашанаю да Вас, У. П.

*Дзякуем за ахвяру на выдавецтва газэты. Пры першай нагодзе пастараемся выканаць Вашую просьбу адносна ахвяры Беларускім Скаўтам. Усяго найлепшага!*

Паважаны Спадар Прускі!

Я вельмі люблю чытаць Вашую газэту "Беларускі Дайджэст". Перасылаю ахвяру на газэту а за 6-ць месяцаў вышлю яшчэ пару даляраў.

Усяго добрага, А. Ш.

*За ахвяру дзякуем. Газэту будзем высылаць. Чытайце і рабіце нам рэкляму.*

---

## Беларусы Дэманстравалі ў Нью Ёрку

Як паведамляюць нам з Нью Ёрку, 22 кастрычніка 1995 г. ля будынка ААН прайшла шумная дэманстрацыя каля паўтысячнае грамады беларусаў супраць насільля ў Беларусі і супраць рэжыму прэзыдэнта Лукашэнкі.

Пад бел-чырвона-белымі сьцягамі і рознымі яркімі транспарэнтамі беларусы Нью Ёрку вынесьлі свой пратэст да развагі і ведама ўсяму сьвету. Дэманстрацыя рознымі спосабамі фільмавалася, паказвалася на TV і апісвалася ў рознамоўнай прэсе. Трэба ведаць, што ў гэты дзень у Нью Ёрк зьехаліся кіраўнікі амаль усіх дзяржаў на ўрачыстае сьвяткаваньне 50-ці гадовага юбілею Арганізацыі Аб'яднаных Нацыяў. Беларусь зьяўляецца сябрам ААН ад самага пачатку. Патрэбна адзначыць, што калі украінцы прымалі свайго прэзыдэнта Л. Кучму гучным і багатым банкетам у адным з найлепшых гатэляў Нью Ёрку, беларусы былі вымушаны дэманстраваць супраць свайго прэзыдэнта А. Лукашэнкі, які пасьлядоўна праводзіць прамаскоўскую і антыбеларускую палітыку на Беларусі. Вось такая рэчаіснасьць... Ж.



**BELARUSIAN CONGRESS COMMITTEE OF AMERICA**
(БЕЛАРУСКІ КАНГРЭСАВЫ КАМІТЭТ АМЭРЫКІ)
724 WEST TANTALLON DRIVE, FORT WASHINGTON, MARYLAND 20744
PHONE: (301) - 292-2610
FAX: (301) - 292-8140

ELEVENTH BELARUSIAN CONGRESS OF AMERICA

R. Zavistovich, President
V. Cierpicki, Vice-President
C. Mierlak, Vice-President
M. Bachar, Vice-President
I. Rahalewicz-Dutko, Vice President, Cultural Affairs
M. Sienko, Secretary
L. Visotsky, Treasurer

MEMBERS:
M. Kalenik
N. Mancywoda
G. Naumczyk
V. Pielesa
K. Worth
C. Naidziuk
Mrs. L. Brylewski
R. Cupryk

September 14, 1995

The President
The White House
Washington, D. C. 20500

Dear Mr. President:

The Belarusian Congress Committee of America, representing Americans of Belarusian descent, strongly condemns the actions of the military in Belarus for shooting down an unpowered gas balloon and killing two Americans who, while participating in an international balloon race, were literally floating around the sky in Belarus, after legally crossing the border from Poland.

We regret that with the present pro-Russian government in Belarus, the life of the long-suffering and peaceful people and the political situation, responsible for the aggressive spirit of the government in that country, have deteriorated to the extent which reminds us of the Soviet Russian cold-war attitude and behavior.

The Committee extends our sincere condolences to the families of the two Americans who were so recklessly shot down from the Belarusian sky.

Sincerely yours,

Russell R. Zavistovich
President

---

**THE WHITE HOUSE**
WASHINGTON

October 19, 1995

Mr. Russell Zavistovich
President
Belarusian Congress Committee
of America
724 West Tantallon Drive
Fort Washington, Maryland 20744

Dear Russell:

Thank you for writing to me about United States foreign policy. Now more than ever, we have an opportunity -- and a responsibility -- to remake American diplomacy and reinforce American security in a new world unburdened by superpower confrontation.

As I have consistently maintained, the best strategy to ensure our security and build a lasting peace is to support the advance of democracy elsewhere. Our commitment to democracy and human rights not only reflects our values, heritage, and cultural ties; it is also consistent with and reinforces our national interest.

From the beginning of my Administration, the ideals of democracy, human rights, and free market reform have stood as pillars of U.S. foreign policy, and I remain committed to promoting these goals. I hope I can count on your support as I seek to preserve the security of our nation while helping other countries to enjoy the freedoms we hold dear.

Sincerely,

Bill Clinton

---

## *Пачалося Новае Жыцьцё...*

У папярэднім № нашае газэты ў зацемцы "На лячэньне ў Амэрыку з Беларусі" мы паведамлялі пра складаную апэрацыю сэрца 10-ці гадовага хлопчыка з Менску, Уладзіміра Курэйчыка.

Вось-жа цяпер з вялікаю радасьцю даводзім да ведама нашых чытачоў, што апэрацыя адбылася ўдала і што Уладзімір чуецца вельмі добра, можна сказаць, як зусім новы чалавек. Яшчэ адзін малады беларус вярнуўся да нармальнага жыцьця. Шчасьці яму Божа!

Ня так даўно Спадарства Натальля і Анатоль Лук'янчукі разам з выдаўцом "Беларускага Дайджэсту" адведвалі Уладзіміра ў госпіталі. Тады, хутка па апэрацыі, малады менчанін быў вельмі хворым. Цяпер яго не пазнаць...

Прыблізны кошт апэрацыі і гаспіталізацыі выносіць каля $50,000 даль. М.

---

### *АХВЯРАВАНЬНІ*
на кніжыцу
"Фальклёр Стаўпеччыны"

| | |
|---|---|
| 1. Надзя Касмовіч | $20.00 |
| 2. Мікола Прускі | $20.00 |
| 3. Я. Шыркоўскі | $62.00 |
| 4. Юрка Весялкоўскі | $15.00 |
| 5. Мікола Сенько | $31.00 |
| 6. Алесь Міцкевіч | $40.00 |
| Разам: | $188.00 |

Хто наступны?

---

Гэтым паведамляецца,
што на адбудову Сьвята-Пятра-Паўлаўскага сабору ў Менску было перадана грашовую ахвяру на рукі прат. Г. Латушкі $300.оо.

Грошы ахвяравалі:

| | |
|---|---|
| 1. Міхась Каленік | $100.оо |
| 2. Мікола Латушкін | $100.оо |
| 3.Уладз. Варачаеў | $100.оо |
| | $300.оо |